









*“Божа, учыні,*
*каб гэты будынак,*
*які Табе*
*прысьвячаем,*
*стаў домам*
*збавеньня і ласкі...*
*Няхай*
*узносіцца тут*
*мілая Табе*
*ахвяра хвалы,*
*а голас людзей,*
*зьяднаны*
*са сьпевам анёлаў,*
*няхай гучыць*
*у няспынннай*
*малітве*
*аб збаўленьні*
*сьвету”.*



# Нарэшце...

Нарэшце, Езу, па драўляных драбінках,
перабіраючы ножкамі тыдні Адвэнту,
прыходзіш Ты ў нашу аднoўленую катэдру.

І калі ўжо багаславёная ноч сплыве на зямлю,
а надзея Бэтлеемскаю зоркаю ўспыхне ў небе,
мы знойдзем Цябе – Малое Дзіцятка,
як доўгачаканую радасьць, у нашай сьвятыні.
І, ўпаўшы перад Табою на калені,
бы тыя пастушкі ў Бэтлееме,
будзем перапрашаць Цябе, Езу,
што так доўга не было Табе месца ў гэтай катэдры.

Тады сьлёзы ў вачах у людзей блішчэлі,
як зоркі ў сьнежаньскім небе,
і ў горкі хлеб пераменяўся бялюткі сьвяточны аплатак.
І маўчала, гадамі маўчала сьвятыня,
замкнутая, як вусны людзей...

Так доўга не было Табе месца ў гэтай катэдры.
І ворагі Твае, Езу, спадзяваліся,
што Ты не народзішся ўвогуле
ў горадзе нашым і ў нашым краі.
Ды памыліліся яны, як заўсёды:
стаенкаю Бэтлеемскаю была тады
душа кожнага з нас.
І штогод, калі сьвятая ноч абдымала зямлю,
мы клалі на стол духмянае сена
і засьцілалі яго белым абрусам надзеі.
І цёплая радасьць успыхвала ў сэрцах,
як агеньчыкі сьвечак на калядней ялінцы...
І песьня сьвятая расчыняла сьцятыя вусны...

Нарэшце, Езу, па драўляных драбінках,
перабіраючы ножкамі тыдні Адвэнту,
прыходзіш Ты ў нашу аднoўленую катэдру.

Просім Цябе, аднаві нашыя душы,
каб сталі яны чыстыя й сьветлыя,
як гэта сьвятыня.
Каб кожная з іх была
годным месцам Твайго нараджэньня.

Крыстына ЛЯЛЬКО





*"Хвала на вышынях Богу,*
*а на зямлі спакой*
*людзям добрай волі"*
*(Лк 2, 14).*

*Дарагія нашы чытачы!*
*Віншуем усіх вас*
*з цудоўным сьвятам*
*Божага Нараджэньня.*
*Няхай разам з Божым Дзіцем*
*увойдуць у вашыя сэрцы*
*шчасьце, радасьць і згода.*
*Няхай нованароджаны*
*Хрыстус адорыць вас*
*спакоем, лагодаю і любоўю.*

***Рэдакцыя "Ave Maria"***



## ПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ НА БОЖАЕ НАРАДЖЭНЬНЕ ГОДУ ПАНСКАГА 1997

*"Езус Хрыстус, адзіны Збавіцель Сьвету, – учора, сёньня і навекі" (ТМА н.40)*

Ужо толькі тры гады аддзяляюць нас ад Вялікага Юбілею 2000 года, калі ў двухтысячную гадавіну Божага Нараджэньня асаблівым чынам мы будзем перажываць таямніцу Уцелаўленьня Слова Божага .

У гэтыя гады падрыхтоўкі да Юбілею думка наша павінна весьці нас да Бэтлеемскага гроту, у якім "Слова сталася Целам", і адначасова няхай паўстае перад нашымі вачыма постаць Езуса Хрыста, Сына Божага Уцелаўлёнага.

"Сапраўды, годна гэта і справядліва, слушна і збавенна", каб мы сёньня, ва ўрачыстасьць Божага Нараджэньня засяродзілі нашу ўвагу менавіта на асобе Езуса Хрыста, на Добрай Навіне, якой Ён даў пачатак 2000 гадоў назад і якая ўвасоблена ў Евангельлі. Гэтая Добрая Навіна Езуса Хрыста стала Божым умяшальніцтвам, якое перадусім вярнула чалавеку прывілею атрыманьня сыноўства Божага праз увядзеньне ў жыцьцё любові Бога, заклікаючы да навяртаньня, да адмаўленьня ад граху, да пакаяньня і паяднаньня з Богам. Вучэньне ж, якое абвяшчаў Пан Езус, і дзейнасьць, якую Ён праводзіў, унесьлі істотныя зьмены ў адносіны людзей адно да аднаго ў імя любові да бліжняга.

Менавіта гэтыя прынцыпы, відавочныя доказы якіх мы маем на старонках Евангельля, пастараймася сёньня больш падрабязна разважыць і зрабіць з іх практычныя вывады.

***Езус прабачае і навяртае грэшнікаў.***

Зычлівыя адносіны Езуса да грэшнікаў натыкаліся на абвінавачваньні з боку фарысеяў у тым, што Ён – "прыяцель мытнікаў і грэшнікаў". Калі Езус сядзеў у доме за сталом, прыйшло многа мытнікаў і грэшнікаў і сядзелі разам з Езусам і Яго вучнямі. Бачачы гэта, фарысеі гаварылі вучням Яго: "Чаму Настаўнік ваш есьць і п'е разам з мытнікамі і грэшнікамі?" (Мц 9, 11). Адказ Езуса дакладна і ясна вызначыў Яго адносіны да грэшнікаў: "Не здаровым патрэбен лекар, а хворым... Бо Я прыйшоў не справядлівых, але грэшнікаў клікаць да пакаяньня" (Мц 9, 12-13).

***Езус вучыць прабачаць і любіць непрыяцеляў.***

Езус Хрыстус не толькі сам літасьцівы да грэшнікаў, але раіць гэта рабіць сваім вызнаўцам. У сваёй малітве "Ойча наш" Ён вучыць нас маліцца наступным чынам: "і прабач нам грахі нашыя, як і мы прабачаем вінаватым нашым" (пар.Лк 11, 4). На пытаньне Пятра: "Пане, колькі разоў дароўваць брату майму, калі ён саграшыць супраць мяне? Ці ажно сем разоў? Езус адказаў яму: "Не кажу табе, да сямі разоў, але семдзесят сем разоў" (пар. Мц 18, 21-22). Поўнаю супрацьлегласьцю Старому Запавету "ненавідзь ворага свайго" (Мц 5, 43) зьяўляецца запавет Пана Езуса "А Я кажу вам: любіце ворагаў вашых" (Мц 5, 44). Укрыжаваны Езус на Галгофе маліўся да Свайго Айца: "Ойча, даруй ім, бо не ведаюць, што робяць" (Лк 23, 34).

***Езус аздараўляе хворых і апантаных.***

На старонках Евангельля запісана вялікая колькасьць розных аздараўленьняў, якія ўчыніў Езус. "І хадзіў Езус па ўсёй Галілеі..., лечачы ўсялякую хворасьць і ўсялякую немач у людзей... Прыводзілі да Яго ўсіх слабых, з рознымі хворасьцямі і прыпадкамі, і апанаваных нячыстым, эпілептыкаў і спаралізаваных, і Ён іх аздараўляў" (пар.Мц 4, 23-24). "Калі ж надышоў вечар, да Яго прывялі шмат людзей, апанаваных злым духам, і Ён выгнаў духаў словам і вярнуў усім хворым здароўе, каб збылося сказанае праз прарока Ісаю, які кажа: Ён узяў на сябе нашыя немачы і вылечыў хваробы нашыя" (пар.Мц 8, 16-17). А значыць, Пан Езус аказаўся лекарам не толькі душы, але і цела чалавечага.

***Езус прымае зьнямоглых і абцяжараных.***

Спачуваньне і літасьць вызначалі Езуса ў адносінах да зьнямоглых і абцяжараных, што кожны дзень зьбіраліся вакол Яго. "Гледзячы на грамады народу, Ён пашкадаваў іх, што былі зьнямоглыя і раскіданыя, быццам авечкі без пастуха" (Мц 9, 36). Словы, з якімі зьвяртаецца Пан Езус да зьнямоглых, напоўнены любоўю і міласэрнасьцю: "Прыйдзіце да Мяне ўсе зьнямоглыя і абцяжараныя, і Я супакою вас"(Мц 11, 28). Жывым бальзамам для ўсіх абцяжараных сталі восем цудоўных Езусавых благаславеньняў у Нагорнай пропаведзі: "Шчасьлівыя ўбогія духам..., шчасьлівыя плачучыя..., ціхія..., галодныя і прагнучыя праўды..., міласьцівыя..., чыстым сэрцам..., міратворцы..., шчасьлівыя, каго гоняць за справядлівасьць... Радуйцеся і цешцеся, бо вялікая вашая ўзнагарода ў небе" (пар.Мц 5, 3-12).

***Езус паважае і цэніць жанчын.***

Евангельле сьведчыць, што Пан Езус сустракаўся з жанчынамі, цаніў іх веру і вернасьць, прыводзіў іх у прыклад, аздараўляў, быў міласэрны адносна нават яўных грэшніц. Жанчыны спадарожнічалі Яму аж на Галгофу і ніколі не здрадзілі. За гэтую вернасьць яны атрымалі ад Езуса прывілею першымі ўбачыць Уваскрослага Езуса.

***Езус любіць дзяцей.***

"Дазвольце дзецям ісьці да Мяне і не забараняйце ім, бо гэткіх ёсьць Валадарства Божае... І, абняўшы іх, усклаў на іх рукі і багаславіў іх" (Мк 10, 14, 16). Адначасова, бачачы перад сабой дзяцей, Ён заклікае дарослых да навяртаньня: "Сапраўды кажу вам: калі не навернецеся і не будзеце, як дзеці, не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае. Дык вось хто ўмаліцца, як гэтае дзіця, той і большы ў Валадарстве Нябесным. І хто прыме адно гэткае дзіцятка ў імя Маё, той Мяне прымае" (Мц 18, 3-5). Таму можна сказаць, што гэта не дзеці павінны стаць дарослымі, але дарослыя павінны стаць дзецьмі.

Праслаўляючы Дзіця Божае, пакладзенае ў ясельках, дзякуем Яму за Яго Уцелаўленьне, за прынесеную на зямлю любоў Бога і бліжняга, і абяцаем Яму ўвасабляць яе ў сваім жыцьці, дзеля Яго хвалы і збаўленьня душ нашых.

Далучаю найлепшыя сьвяточныя пажаданьні з пастырскім благаслаўленьнем.

*Кардынал Казімір Сьвёнтэк*
*Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*
*Апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі*





***РЭКАНСЭКРАЦЫЯ МІНСКАЙ КАТЭДРЫ***



# ВЕРА ЛЮДСКАЯ ЎВАСКРАСІЛА ЦЯБЕ

Маці касьцёлаў Беларусі. Мінская катэдра Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны. Расьпятая і ўваскрослая сьвятыня. Сімвал адраджэньня каталіцкай веры ў нашым Краі. Сімвал няскоранасьці Люду Божага, ягонай адданасьці і вернасьці Хрысту "ажно да праліцьця крыві". Вобраз нябеснага Ерузалема, узьнесены з руінаў ахвярнаю працаю і малітваю, самаадрачэньнем і пакутаю, цярпеньнем і нязломнаю, усепераможнаю надзеяй дзесяткаў соцень тых, што сталі Тваімі жывымі камянямі, Тваім трывалым, непахісным падмуркам. Ты дачакала свае зорнай часіны, свайго трыумфу, каб нарэшце ва ўсёй старажытнай прыгажосьці і велічы паўстаць перад намі. Нельга адвесьці вачэй ад першароднай чысьціні Тваіх муроў, ад урачыстай узьнёсласьці Тваіх крыжоў і вежаў. Як Боскі цуд, такі доўгачаканы і разам з тым — неспадзяваны, узьнялася Ты над друзам грахоўнасьці і бязьвер'я гэтага сьвету. Колькі надзеі, сілы і веры ўліваеш Ты ў каталіцкія сэрцы, як жа дапамагаеш усім нам сёньня выжыць і вытрываць, мілая наша пакутніца. Ты стала для нас відочным знакам Боскай любові і моцы. І таму, перажываючы разам з Табою радасьць уваскрашэньня, мы з хваляваньнем гартаем старонкі Твайго мінулага. Яно вучыць і перасьцерагае, яно прамаўляе да кожнага з нас сёньняшніх.

Гісторыкі кажуць, што Мінская катэдра ўзьведзена на тым самым месцы, дзе калісьці Уладзіслаў Ягайла заснаваў першую каталіцкую сьвятыню. У розны час па-рознаму называлася гэтае месца: Верхні рынак, Высокае места, Верхні горад, Саборная плошча, плошча Свабоды...

Польскі дасьледчык Ежы Пашэнда пісаў, што "1 сьнежня 1694 года жыхары Мінскага ваяводства, сабраўшыся на свой соймік пад кіраўніцтвам мінскага старосты Крыштофа Завішы, паставілі даць па 10 польскіх грошаў з дыму на будову езуіцкага касьцёла, якая распачалася ў 1700г. 24 красавіка ў дзень сьв.Марка Евангеліста супэрыёр езуітаў Антоні Бжастоўскі (брат Віленскага біскупа) асьвяціў вуглавы камень.

Шчодрыя ахвяраваньні, атрыманыя ад біскупа Канстанта Казіміра Бжастоўскага, ад магнатаў, трыбунальскіх суддзяў і шляхты, якая сабралася на соймік, паспрыялі хуткаму будаўніцтву сьвятыні. На працягу трох месяцаў былі закладзены ўсе фундаменты, а ў 1705г. — узьведзены дах і скляпеньне. У наступныя гады, нягледзячы на цяжкія кантрыбуцыі і пастой у Мінску то расейскага, то шведскага войска, працы ўнутры касьцёла не спыняліся. Ужо ў 1708г. 31 ліпеня, у дзень сьв.Ігнацыя, набажэнства было ўрачыста перанесена з старой драўлянай капліцы ў новую сьвятыню...

16 сакавіка 1710г., у другую нядзелю Вялікага Посту, біскуп Канстанты Бжастоўскі кансэкраваў касьцёл імя Езуса, Марыі і сьв.Барбары..."

Так амаль тры стагоддзі назад пачала сваё жыцьцё адна з самых прыгожых сьвятыняў нашай сталіцы.

У 1773г., пасьля скасаваньня закону езуітаў, іхні касьцёл стаў парафіяльным, а 28 красавіка 1798г. яму была нададзена годнасьць катэдральнага. Але перад самым заснаваньнем Мінскай дыяцэзіі, у палове 1797г., сьвятыня стала ахвяраю пажару. Уладзіслаў Сыракомля ў сваім гістарычным нарысе "Мінск" адзначаў, што тады "згарэла значная частка касьцельных рэчаў, якія засталіся ад езуітаў; ацалелі толькі абразы. Цела сьв.Феліцыяна было перанесена ў касьцёл бенедыктынак. Біскуп Якуб Дадэрка адразу ж пасьля свайго ўступленьня ў сан узяўся за адбудову касьцёла (...) За няпоўныя пяць гадоў ён не толькі аднавіў сьвятыню, але й аздобіў яе. Спачатку, у 1799г., адна капліца сьв.Феліцыяна, а пазьней, у 1800г., і ўвесь касьцёл былі ўжо адчынены для набажэнства".

Багата розных падзеяў мінула з таго часу: і радасных, і трагічных. Сьвятыня была іх жывою сьведкаю.

Шмат незвычайных сьвятарскіх лёсаў упісана ў яе гісторыю.

Перадусім трэба згадаць, што з красавіка 1905г. пробашчам катэдры пэўны час быў ксёндз Зыгмунт Лазінскі. У лістападзе 1917г. папа Бене-

дыкт XV мянаваў яго біскупам Мінскай дыяцэзіі. На жаль, намінацыя гэта супала з пачаткам бальшавіцкага тэрору і жорсткага перасьледу хрысьціянскай веры. У 1920г. НКВД арыштаваў біскупа Лазінскага.

Такі драматычны лёс напаткаў амаль усіх сьвятароў, якія ў часы ганеньняў на каталіцкую веру працавалі ў Мінскай катэдры.

Удзячна ўспамінаюць парафіяне пробашча катэдры Адама Пучкар-Хмялеўскага, сьвятара надзвычай чалавечнага і пабожнага. Жывуць яшчэ тыя, хто прымаў з яго рук першую сьвятую Камунію, каго ён вянчаў, хто ішоў за ім па мінскіх вуліцах у шматлюднай працэсіі на сьвята Божага Цела, хто разам перажываў рэзурэкцыі ў катэдры ў страшныя 30-я, калі і сьвятар, і вернікі вымушаны былі прабівацца ў касьцёл праз натоўп ваяўнічых бязбожнікаў...

У 1934г. НКВД арыштаваў ксяндза Адама. Яго саслалі ў Сібір, а катэдру зачынілі. У 37-м ён вярнуўся ў Мінск, але ненадоўга. У 38-м сьвятара арыштавалі зноў і ў тым жа годзе расстралялі...

У кастрычніку 1944г. у вызвалены ад немцаў Мінск прыехаў з Вільні ксёндз Антоні Барысовіч, але затрымаўся ён у катэдры толькі тры месяцы: 24 сьнежня, акурат у Вігілію Божага Нараджэньня, кадэбісты арыштавалі сьвятара.

Усяго адзін год пасьля ягонага арышту папрацаваў у Мінску ксёндз Віктар Шутовіч, які абслугоўваў два касьцёлы: Чырвоны і катэдральны. У студзені 1945г. ён таксама стаў ахвяраю перасьледу.

Мінскія сьвятыні асірацелі. Каталікі сталіцы засталіся без душпастыраў. Бязбожная савецкая ўлада ведала, што такім чынам яна расчышчае сабе шлях для канчатковай расправы з каталіцкім рэлігійным жыцьцём у Мінску. Заставалася апошняе: зьнішчыць сьвятыні.

І ўжо ў 1947г. зьявілася пастанова "Аб часовай перадачы рымска-каталіцкага катэдральнага касьцёла БДТ імя Я.Купалы" пад склад для дэкарацый.

Велічная барокавая сьвятыня, якая ператрывала даваенныя рэпрэсіі і ліхалецьце, якой не закранула апошняя вайна, хоць амаль увесь Мінск ляжаў у руінах, стала ў канцы 40-х ахвяраю бальшавіцкага нігілізму і, як сказаў А.Купрын, "худосочного, припадочного атеизма". Быццам усё яшчэ замала было ахвяраў, замала было руінаў і разбурэньня тым "пераможцам", якія аселі ў беларускай сталіцы.

У 1948г. пастановаю ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР будынак катэдры быў перададзены спартыўнаму таварыству "Спартак". Тагачасны Герастрат ад архітэктуры М.Драздоў зрабіў праект перабудовы сьвятыні. У выніку з касьцёла былі скінуты крыжы і званы, разбураны яго старажытныя вежы, а сам ён — замураваны шэраю тоўшчаю няўклюднага фасада.



Алтар Сэрца Езуса ў Мінскай катэдры. Канец 20-х гадоў.

На пачатку 50-х сьвятыню спустошылі цалкам і перабудавалі ўнутры: у ёй нагрувасьцілі два паверхі, парабілі лесьвіцы, балконы, замазалі фрэскі, перафарбавалі сьцены, наляпіўшы скрозь пяцікутных зорак, сярпоў і молатаў, а да фасада, каб

Першая Сьвятая Камунія ў Мінскай катэдры. Канец 20-х гадоў.







ні ў кога не ўзьнікала сумненьня, прымацавалі вялікую металёвую шыльду з надпісам "Дом фізкультуры"... Амаль паўвеку насіла на сабе гэта ганебнае бальшавіцкае кляймо старажытная Мінская катэдра, церпячы ў сваіх сьценах няпрошаных пастаяльцаў. Сьцяўшыся, змалеўшы пазірала яна на тых, што з дня ў дзень ішлі, сьпяшаліся паўз яе па сваіх справах. Многія яе ўжо не пазнавалі; многія нават не здагадваліся, што гэта той самы паезуіцкі барокавы касьцёл XVIII ст., які ім даводзілася часам бачыць на паштоўках старога Менска; многія, ведаючы і памятаючы пра трагедыю сьвятыні, маўкліва з тым згаджаліся, апраўдваючы ўсё часам і абставінамі. Але былі таксама й тыя, што не маглі абыякава глядзець на яе зьнявечанае аблічча. Іх замглёныя сьлязьмі вочы паранейшаму бачылі над ёю сьвятыя крыжы і ўзьнёслыя вежы. Каталікі Мінска верылі, што прыйдзе час і Бог праявіць сваю моц. У тыя гады ў іх уласным лёсе збываліся словы Хрыста, Яго прарочае папярэджаньне: "І будуць ненавідзець вас усе за імя Маё, а хто выцерпіць да канца, той збавіцца". І вернікі цярпелі. Маліліся дома, таемна бралі шлюб, хрысьцілі дзяцей у тых касьцёлах, якія цудам ацалелі на Беларусі, альбо ехалі ў Вільню... Яны не здрадзілі сваёй каталіцкай веры, захавалі яе глыбока ў сэрцах, праз сьвяты хрост далучалі да яе дзяцей і ўнукаў. І вытрывалі з ёю, дачакаўшы перабудовы, а разам і адбудовы рэлігійнага жыцьця ў краіне. Адбудова ж тая пачалася з нялёгкага змагання за свае сьвятыні, за іх вяртаньне.

...Пра той час можна напісаць драматычную і ўзьнёслую паэму, якая б уславіла непахіснасьць чалавечай веры, бязьмежную адданасьць Пану Богу, ахвярную мужнасьць і сапраўднае хрысьціянскае цярпеньне католікаў Беларусі...

Прыгадваецца, як, дзякуючы расейскай праграме "Взгляд" (на той час самай дэмакратычнай на ўсесаюзным тэлебачаньні), сьвет пабачыў, як католікі Мінска мужна адстойвалі касьцёл сьвятых Сымона і Алены... Нястомнае малітоўнае чуваньне, галадоўкі парафіянаў, працэсіі ўдзень і ўночы вакол сьвятыні нарэшце зламалі зацятую ўпартасьць гарадскіх уладаў: кіношнікам, што кватаравалі ў касьцёле, знайшлося іншае памяшканьне, сьвятыня была вернута яе законным гаспадарам. Тады вернікі, адчуўшы Божую дапамогу, прыйшлі да катэдры...

Ці зможа хто сёньня палічыць бясконцыя гадзіны іх трываньня на каленях з ружанцамі ў руках пад зьнявечаным Домам Божым? На марозе і сьнезе, пад дажджом і пранізьлівым ветрам штодня маліліся вернікі сталіцы разам з ксяндзом Уладзіславам Завальнюком за сваю галоўную сьвятыню і верылі, што Бог пачуе іх малітвы. Пераважна людзі сталага веку, стомленыя, зьнямажаныя жыцьцём і працаю, рана і ўвечары, з дня ў дзень ішлі яны на Сьвятую Імшу пад голым небам, да алтара, устаноўленага на прыступках замкнёнай сьвятыні.

А колькі зьдзеку, зьнявагаў, кпінаў прыйшлося выцерпець ім ад тых, што, бессаромна заняўшы касьцёл, пачуваліся там гаспадарамі, накачвалі мускулы, прапаведвалі культ сілы і не раз выпрабоўвалі яе на безабаронных парафіянах катэдры. Але людзі не спалохаліся, не адступілі. Бо хіба ж можна баяцца чалавека, калі з табою сам Бог, калі ў сэрцы тваім трывала выпісаны словы Хрыста: "Не бойцеся. Я перамог сьвет". Яны, вернікі Мінска, перамаглі разам з Ім той бяздушны сьвет грубай і цёмнай сілы, якая акупавала іх Дом малітвы.

9 сьнежня 1993г. пастановаю Савета Міністраў Беларусі будынак катэдры быў вернуты католікам Мінска...

Цяпер, калі пішуцца гэтыя словы, калі адрэстаўраваная сьвятыня зьдзіўляе і зачароўвае сваім хараством усіх мінчукоў і гасьцей сталіцы, часам цяжка паверыць у рэальнасьць усяго перажытага. А згадваць хочацца найбольш значнае і сьветлае. І найперш, хіба, той марозны сонечны дзень 5 лютага 1994г., калі парафіянам удалося нарэшце скінуць з катэдры абрыдлую савецкую шыльду "Дом фізкультуры" і ўстанавіць на франтоне сьвятыні крыж. Гэта быў пачатак вяртаньня. Тады ж адбылося папярэдняе асьвячэньне касьцёла і арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Казімір Сьвёнтэк адправіў Сьвятую Імшу на першым паверсе катэдры.

А як не згадаць сёньня першую рэзурэкцыю ў вернутай сьвятыні? У тую велікодную раніцу катэдра не змагла зьмясьціць усіх вернікаў і людзі

5 лютага 1994г.
На франтоне катэдры быў устаноўлены крыж.





Лета 1996г.
Рэстаўрацыя катэдральных вежаў.

сталі на вуліцы, на халоднай вясновай слоце, не заўважаючы яе, сьпявалі ўрачыстае "Альлелюя", а па ўзбуджаных шчасьлівых тварах разам з кроплямі дажджу сьцякалі сьлёзы радасьці і надзеі. Бо менавіта ў той сьвяточнай гамііі з вуснаў свайго арцыпастыра каталікі Мінска пачулі цьвёрдае абяцаньне вярнуць катэдры яе першапачатковае старажытнае хараство і яе барокавую веліч.

І пачаўся адлік часу. І ў часе тым спрасаваліся імгненьні, якія ўжо сталі гісторыяй. Гісторыяй аднаўленьня Мінскай катэдры Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны. Гісторыяй жыцьця ўсяго Каталіцкага Касьцёла на Беларусі.

У маі таго ж 1994г. у Мінск быў прызначаны першы за ўсе пасьляваенныя гады дзекан і пробашч катэдры. Ім стаў ксёндз Ян Шуткевіч.

Успамінаецца сьвяточны майскі дзень, калі ксёндз Ян стаяў каля алтара побач з старажытным барокавым крыжам і ўзрушана апавядаў, як яшчэ юнаком вынес, уратаваў гэты крыж у той страшны час, калі разбуралі і спусташалі Мінскую катэдру. І менавіта з гэтым крыжам ужо як пробашч прыйшоў ён сюды зноў, каб на працягу трох цяжкіх гадоў аднаўленьня катэдры, яе вяртаньня да жыцьця выконваць сваю сьвятарскую місію, аддана служыць і гэтай сьвятыні, і яе вернікам.

Па сутнасьці, у тыя гады рэстаўрацыі адбудоўваўся не толькі гмах катэдры, адраджалася таксама катэдральная парафія. Тая жывая хрысьціянская супольнасьць, якая здольна была і шчыра маліцца, і самаахвярна працаваць фізічна, разграбаючы і выносячы друз і сьмецьце, пастаянна мыючы і прыбіраючы сьвятыню, рыхтуючы яе пасьля працоўнага дня да набажэнства. Ці трэба казаць, што вельмі многае ў тых экстрэмальных умовах залежала ад пробашча, ад яго здольнасьці ўсё ўспрымаць і суперажываць сэрцам. Парафіяне глыбока ўдзячны ксяндзу Яну за тое, што ў тыя цяжкія гады аднаўлялася не толькі іх улюбёная катэдра, але разам з ёю і ў ёй адраджалася спрадвечная каталіцкая традыцыя.

І калі ўжо прытрымлівацца храналогіі найбольш значных падзеяў, якія адбываліся ў зьнявечаных тады яшчэ сьценах нашай катэдры, то адну з іх, прынамсі мы, супрацоўнікі рэдакцыі часопіса "Ave Maria", не можам абысьці маўчаньнем: у лістападзе 1994 года з благаслаўленьня Яго Эксцэленцыі арцыбіскупа Казіміра Сьвёнтка ўбачыў сьвет першы нумар "Ave Maria" з выяваю Маці Божай Фацімскай на вокладцы...

Дзякуючы падтрымцы біскупа і зычлівасьці пробашча катэдры, рэдакцыя знайшла сабе там прытулак. І хоць проста над галовамі стукалі малаткі будаўнікоў-рэстаўратараў, хоць ад пылу псавалася тэхніка і пастаянна ўзьнікалі самыя розныя цяжкасьці, дадавала сілы і натхняла на працу адраджэньне сьвятыні, якое адбывалася на нашых вачах. Пачынаючы з 16 жніўня таго ж 1994г., на працягу трох гадоў, з дня ў дзень, крок за крокам вярталі катэдры яе першапачатковае барокавае аблічча рэстаўратары Замойскай майстэрні Кансэрвацыі Помнікаў "REHABIT" з Польшчы ў супрацоўніцтве з Беларускім Камітэтам Аховы Помнікаў.

Пра іх цяжкую і адказную працу трэба было б пісаць асобна і верыцца, што так яно і будзе, што прычакае яна свайго дасьведчанага аўтара і дасьледчыка. Сёньня ж хочацца адно нізка і ўдзячна схіліць галаву перад талентам, цярплівасьцю самаахвярнасьцю і глыбокімі ведамі гісторыкаў, архітэктараў, рэстаўратараў, інжынераў, будаўнікоў — усіх тых, хто вяртаў сьвятыні яе зьнешняе і ўнутранае аўтэнтычнае хараство, што падараваў нам яе такую, якая яна ёсьць сёньня...

Адраджэньне катэдры ішло поруч з адраджэньнем рэлігійнага жыцьця ўсяе Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, усяго Касьцёла ў нашым Краі. І яна, Маці касьцёлаў Беларусі, стала яго цэнтрам. Тут, сярод рыштаваньняў і звыклай будаўнічай непрытульнасьці, адбываліся найбольш значныя і ўрачыстыя падзеі: інгрэс першага кардынала на Беларусі, інаўгурацыя Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі, першыя сьвятарскія пасьвячэньні... Тут 9 ліпеня 1995г. атрымаў сакрамэнт сьвятарства з рук арцыбіскупа адзін з першых выпускнікоў Гродзенскай Духоўнай семінарыі Антоні Клімантовіч. Ці думаў ён у той ліпеньскі дзень, што менавіта Мінская катэдра стане пачаткам яго сьвятарскага лёсу, выпрабаваньнем яго духовай сілы, адданасьці і вернасьці Пану Богу?..





Лёсы, падзеі, даты... Гісторыя.

Адным з самых значных яе момантаў стаў, мабыць, дзень 15 мая 1996г., калі на новых катэдральных вежах зьявіліся нарэшце крыжы. Цяпер ужо кожны, хто праходзіў міма, ведаў: у Мінску вяртаецца да жыцьця яшчэ адна каталіцкая сьвятыня.

А крыху больш як праз год кардынал Казімір Сьвёнтэк асьвяціў і чатыры званы. 29 ліпеня 1997г. яны былі ўзьняты на вежы катэдры. Першы з іх, самы вялікі, прысьвечаны Маці Божай Будслаўскай, наступныя — Папу Яну Паўлу II, Слузе Божаму біскупу Зыгмунту Лазінскаму, чацьвёрты, самы меншы — Сіноду...

21 кастрычніка 1997 года Мінск упершыню пачуў іх магутныя, урачыстыя бомы: званы абвясьцілі гораду і сьвету пра гістарычную падзею — рэкансэкрацыю Мінскай катэдры Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны.

Цяжка знайсьці словы, каб перадаць пачуцьці, якія перапаўнялі сэрцы вернікаў у той дзень. Здавалася, сама прырода радуецца разам з людзьмі: пасьля зацяжных восеньскіх дажджоў з раніцы 21 кастрычніка нечакана засьвяціла яркае сонца і расьсеяла нізкія цёмныя хмары. Зазьзялі пад яго прамянямі крыжы на катэдры, і сама яна стаяла такая прасьветлена-ўрачыстая, велічная, як бы сапраўды сышла з неба і стала неспадзяваным цудам, незвычайным дарам Божым гэтаму зьнявераваму гораду, увачавідкі зьмяніўшы яго воблік, вярнуўшы яму страчаную, адабраную калісьці духоўную адметнасьць і хараство.

Зьдзіўленьне, радасьць, узрушэньне панавалі ў той дзень у людскіх сэрцах. І ўдзячнасьць. Вялікая ўдзячнасьць Пану Богу, што дажылі, дачакалі гэтага дня, што нездарма калені на сьнезе, цярпелі зьдзекі і паняверку. Удзячнасьць за тое, што Бог даў ласку на свае вочы ўбачыць перамогу Яго справы, Яго хвалы... Уваскрослая сьвятыня гасьцінна прымала ў сваіх сьценах высокіх іерархаў Каталіцкага Касьцёла з многіх краінаў сьвету, сьвятарства з усяе Беларусі, верны люд Божы...

А 12-й гадзіне распачалася ўрачыстая Сьвятая Імша. Напачатку яе Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Сьвёнтэк, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі прывітаў шаноўных гасьцей. Сярод іх былі кардынал Эдмунд Казімір Шока — сьпецыяльны Пасланьнік Сьвятога Айца Яна Паўла II на рэкансэкрацыю Мінскай катэдры, кардыналы Юзэф Глемп, Прымас Польшчы і Гэнрык Гульбіновіч, Мітрапаліт Вроцлаўскі, Яго Эксцэленцыя арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь, арцыбіскупы і біскупы — Мар'ян Яворскі, Мітрапаліт Львоўскі, Яніс Пуятс, Мітрапаліт Рыжскі, Тадэвуш Кандрусевіч, Апостальскі Адміністратар для каталікаў еўрапейскай часткі Расіі, Паўлё Джыле, біскуп суфраган дыяцэзіі Альбано, прадстаўнік Яго Эмінэнцыі кардынала Камільлё Руіні, Генеральнага Вікарыя Яго Сьвятасьці, Аляксандр Кашкевіч, біскуп Гродзенскі, Ёзас Тунайціс, біскуп суфраган Віленскі, Маркіян Трафімяк, біскуп суфраган Львоўскай дыяцэзіі, архімандрыт Сергій Гаек, Апостальскі Візітатар Грэка-Каталіцкай Царквы на Беларусі, пратаіерэй Генадзь Дзічкоўскі, прадстаўнік Яго Высокапраасьвяшчэнства Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі, прадстаўнік дзяржаўнай улады Аляксандр Білык...

Гістарычную значнасьць падзеі падкрэсьлівала і сьпецыяльнае Пасланьне Сьвятога Айца, якое прачытаў па-беларуску кардынал Эдмунд Казімір Шока. Ён выказаў таксама сваю асабістую радасьць з нагоды вялікай урачыстасьці і перадаў Яго Эмінэнцыі кардыналу Казіміру Сьвёнтку падарункі Папы Рымскага для аднаўленай Мінскай катэдры — залаты келіх і арнат як знак духоўнай лучнасьці Сьвятога Айца з Касьцёлам на Беларусі, з усімі яго вернікамі.

І вось настаў урачысты момант намашчэньня хрызмаю новага катэдральнага алтара... Затым былі намашчаны і акаджаны сьцены касьцёла, а таксама сабраны люд Божы — жывая сьвятыня.

У новапасьвечанай катэдры запаліліся сьвечкі, каб у ёй заўсёды зьзяла нязгаснае сьвятло Хрыстовае Праўды.

Паплылі першыя зыкі званоў. Да іх далучыўся хваласьпеў хору. Здалося, што ў гэты момант паяднапася неба з зямлёю, што радасьць жывых зьлілася з радасьцю тых, хто ў розны час склаў сваё жыцьцё на алтар гэтай сьвятыні і адышоў да нябеснай хвалы: Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі, ксёндз Адам Пучкар-Хмялеўскі, ксёндз Антоні Барысовіч...

Былі сьветлыя, шчымлівыя сьлёзы і ўдзячная малітва сэрцаў: "Божа, учыні, каб гэты будынак, які Табе прысьвячаем, стаў домам збаўленьня і ласкі. Няхай люд хрысьціянскі, які тут зьбіраецца, праслаўляе Цябе ў духу і праўдзе і ўзрастае ў любові..."

Падпісаны акт рэкансэкрацыі Катэдральнага касьцёла Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны ў Мінску. Акт сапраўды гістарычны. Урачыстасьць завершана. Застаецца дадаць, што адбывалася яна ў дзень нараджэньня Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Сьвёнтка. І ў гэты дзень арцыпастыр беларускіх католікаў, зьвяртаючыся ва ўрачыстай гамііі да сабраных вернікаў, мог з радасьцю ў сэрцы сказаць: "Слова сваё я стрымаў, абяцаньне выканаў: Мінская катэдра адбудавана і аднаўлена. Дзякуй Табе, Божа!"

*Крыстына ЛЯЛЬКО*

*У артыкуле выкарыстаны архіўныя фотаздымкі.*
*На 1, 2 і 4 старонках вокладкі – фотаздымкі Анатоля КЛЕШЧУКА,*
*на 3 – Уладзіміра СУЦЯГІНА*

**Ян Павел II**

# "НАПАЧАТКУ БЫЛО СЛОВА"

**1.** Сьвяткаваньне юбілею наказвае нам глянуць на Езуса Хрыста як на пункт спасьціжэньня таго часу, які Яму папярэднічаў, і як на кропку адліку часу, які наступіў пасьля Яго. Бо Ён распачаў новую гісторыю не толькі для тых, хто ў Яго верыць, але таксама для ўсяе чалавечай супольнасьці, паколькі зьдзейсьненае Ім збаўленьне датычыць кожнага чалавека. З таго часу ва ўсёй гісторыі таемным чынам пашыраецца плён Яго збавеннай справы. Разам з Хрыстом вечнасьць увайшла ў час!

"Напачатку было Слова" (Ян 1, 1). З гэтых словаў Ян распачынае сваё Евангельле, выводзячы нас па-за пачатак нашага часу, ажно да вечнасьці Божай. У адрозьненьне ад Мацьвея і Лукі, якія асноўным чынам спыняюцца на абставінах чалавечых народзінаў Сына Божага, Ян засяроджвае ўвагу на таямніцы Яго Божага перадбыцьця.

У гэтай фразе выраз "пачатак" азначае абсалютны пачатак, пачатак без пачатку, менавіта вечнасьць. Выраз гэты — рэха выразу, заключанага ў аповесьці пра стварэньне: "Спачатку Бог стварыў неба і зямлю" (Быц 1, 1). Але ў стварэньні справа датычыць пачатку часу, тут жа, дзе гаворка ідзе пра Слова, справа датычыць вечнасьці.

Паміж двума пачаткамі — бясконцая адлегласьць. Гэта адлегласьць паміж часам і вечнасьцю, паміж стварэньнямі і Богам.

**2.** Існуючы спрадвеку як Слова, Хрыстус мае пачатак, які выходзіць далёка па-за сваё нараджэньне ў часе.

Гэта Янава сьцьвярджэньне абапіраецца на дакладныя словы самога Езуса. Габрэям, якія папракаюць Яго ў прэтэнзіях на сузіраньне Абрагама, хоць Ён не мае яшчэ пяцідзесяці гадоў, Езус адказвае: "Сапраўды, сапраўды кажу вам: перш чым нарадзіўся Абрагам, быў Я" (Ян 8, 58). Гэтае сцьвярджэньне падкрэсьлівае кантраст паміж нараджэньнем Абрагама і існаваньнем Езуса. Бо слова "genesthai", ужытае ў грэцкім тэксьце ў адносінах да Абрагама, азначае "нараджэньне" альбо "прыход да існасьці": гэта слова, якое адпавядае азначэньню спосабу існаваньня стварэньняў. Тым часам толькі Езус можа сказаць: "Я ёсьць", указваючы гэтым выразам на паўнату існасьці, якая застаецца па-над усялякім нараджэньнем. Такім чынам Ён выяўляе ўсьведамленьне валоданьня адвечнаю асабістаю існасьцю.

**3.** Адносячы да сябе выраз "Я ёсьць", Езус прымае за Сваё імя Бога, аб'яўленае Майсею ў Кнізе Выхаду. Пасьля таго, як яму была даверана місія вызваленьня свайго народу з няволі ў Егіпце, Яхвэ-Пан гарантуе яму апеку і блізкасьць і як бы задаткам свае вернасьці адкрывае яму таямніцу свайго імя: "Я ёсьць, каторы Ёсьць". Такім чынам, Майсей зможа сказаць ізраэлітам: "Ёсьць паслаў мяне да вас" (тамсама). Імя гэтае выяўляе збавенную прысутнасьць Бога пры Сваім народзе, але таксама і Яго недасяжную таямніцу.

Езус прымае за Сваё гэта Божае імя. У Евангельлі паводле сьв.Яна гэты выраз зьяўляецца часьцей на Яго вуснах (пар. 8, 24, 28, 58; 13, 19). Праз яго Езус канчаткова выказвае, што ў Яго асобе вечнасьць не толькі папярэджвае час, але таксама ўваходзіць у час.

Хоць Езус падзяляе з намі чалавечую прыроду, Ён аднак мае ўсьведамленьне свае адвечнай існасьці, якая надае вышэйшую каштоўнасьць усёй Яго дзейнасьці. Ён сам падкрэсьліў гэту вячыстую каштоўнасьць: "Неба і зямля мінуць, але словы Мае не мінуць" (Мк 13, 31). Яго словы, як і Яго дзейнасьць маюць выключную, канчатковую каштоўнасьць і будуць адносіцца да чалавецтва ажно да сканчэньня часу.

**4.** Дзейнасьць Езуса заключае ў сабе два цесна зьвязаныя паміж сабою асьпекты: гэта збаўчая дзейнасьць, якая вызваляе чалавецтва ад сілы зла, і гэта новае стварэньне, якое гарантуе людзям удзел у Божым жыцьці.

Вызваленьне ад злога мела свой правобраз у Старым Запавеце, але толькі Хрыстус мог яго ажыцьцявіць ва ўсёй паўнаце. Толькі Ён, будучы Сынам, валодае вячыстаю ўладаю над гісторыяй чалавецтва: "Дык вось, калі Сын вызваліць вас, то сапраўды вольнымі будзеце" (Ян 8, 36). Ліст да Габрэяў моцна падкрэсьлівае гэту праўду, указваючы, як адзіная ахвяра Сына здабыла для нас "вечнае адкупленьне" (9, 12), бясконца перавышаючы каштоўнасьць ахвяраў Старога Запавету.

Новае стварэньне можа ўвасобіць у жыцьцё толькі Той, хто ўсемагутны, паколькі прадпасылае гэту перадачу жыцьця Божага чалавечаму існаваньню.

**5.** Персьпектыва адвечнага пачатку Слова, асабліва падкрэсьленая ў Евангельлі паводле сьв. Яна, натхняе нас пранікаць у глыбіні таямніцы Хрыста.

Таму зьбліжаймася да Юбілею, штораз мацней вызнаючы нашу веру ў Хрыста — "Бога з Бога, Сьвятло са Сьвятла, Бога сапраўднага з Бога сапраўднага". Гэтыя выразы з Credo адкрываюць нам шлях да таямніцы, зьяўляюцца запрашэньнем наблізіцца да яе. Таксама й сёньня, як дзьве тысячы гадоў назад сваім вучням і слухачам, Езус пацьвярджае цяперашняму пакаленьню ўсьведамленьне свае Божай тоеснасьці, таямніцу — Я Ёсьць.

Дзякуючы гэтай таямніцы, гісторыя чалавецтва ўжо не аддадзена цёмным сілам, але мае сэнс і кірунак: яна як бы апладнена вечнасьцю. Сёньня для ўсіх суцяшальна гучыць абяцаньне, якое Хрыстус даў сваім вучням: "І вось я з вамі ва ўсе дні да сканчэньня веку" (Мц 28, 20).

*Ватыкан, 26.11.1997г. (KAI)*

***Пераклад Крыстыны ГУРСКАЙ***










# ПРАНІКАЙМА Ў ТАЯМНІЦУ СЛОВА БОЖАГА!

(...) Усе мы сьвядома альбо падсьвядома шукаем Езуса. Дзе ж можам Яго знайсьці, каб Ён нас збавіў, навучыў, ажывіў нашу надзею, дапамог пачуцца людзьмі, даў арыенціры, як мы павінны жыць, каб сказаў, што нас чакае ў жыцьці і пасьля сьмерці?

Мы ведаем, што Хрыста можна заўсёды знайсьці ў Касьцёле, бо Касьцёл няязьменна прапануе магчымасьць сустрэцца з Ім. Мы заўсёды можам знайсьці Езуса ў сакрамэнтах Касьцёла, асабліва ў Эўхарыстыі. Гэта прысутнасьць Хрыста дазваляе нам падтрымліваць з Ім кантакт праз малітву, праз ласку і праз незвычайны дар Эўхарыстычнага Пасілку. Прымаючы Езуса ў Эўхарыстыі, тым самым мы прымаем усё, што Ён нам прыносіць, а значыць і Яго навуку аб збаўленьні і Яго ласку, якая ўмацоўвае нашу веру, надзею і любоў.

Касьцёл нязьменна прапануе нам таксама слова Божае, праз якое Бог да нас прамаўляе. Аднак мы пастаянна недааацэньваем гэтага вялікага дару.

Шукаеш збаўленьня, шукаеш дарогі жыцьця, шукаеш адказу на розныя пытаньні? Ідзеш з імі да людзей, таксама да людзей у Касьцёле? Яны будуць табе падказваць, якая ёсьць навука веры, навука Касьцёла, будуць абапірацца на ўласны вопыт сустрэчаў з Богам, будуць дадаваць вопыт іншых. Часта табе гэта дапаможа. Аднак, калі ты ўвесь час шукаеш збаўленьня, г.зн. сьвядома альбо падсьвядома шукаеш Езуса, вазьмі ў рукі Евангельле. Чытай і разважай, як Езус жыў і чаму навучаў. Можа, скажаш, што ведаеш Яго, бо хадзіў на ўрокі рэлігіі, бо чуеш фрагменты Сьвятога Пісаньня ў часе нядзельнай Імшы? Аднак запэўніваю цябе, што калі ты, ужо дарослым чалавекам, не прачытаў Евангельля некалькі разоў, то яшчэ не ведаеш Езуса. Нават, калі ты шукаеш Яго ў мудрых кнігах, якія спасылаюцца на Евангельле, можаш Яго там не знайсьці, бо вобраз Яго заўсёды будзе частковы, будзе складацца з фрагментаў.

Гэта праўда, што можна паяднацца з Хрыстом праз малітву і сьвятыя сакрамэнты. Абапіраючыся на такую практыку рэлігійнага жыцьця, можна нават дасягнуць вялікай сьвятасьці. Але калі ты ўсё яшчэ задаеш пытаньні і, нягледзячы на сваё рэлігійнае жыцьцё, працягваеш шукаць адказы на свае пытаньні, то чытай Сьвятое Пісаньне. Бо, як зазначае Другі Ватыканскі Сабор і новы Катэхізм Каталіцкага Касьцёла (раз. 51 і 81), "спадабалася Богу ў сваёй дабрыні і мудрасьці аб'явіць сябе самога і адкрыць нам таямніцу свае волі, дзякуючы якой праз Хрыста, праз Уцелаўлёнае Слова, людзі маюць доступ да Айца ў Духу Сьвятым і становяцца ўдзельнікамі Боскай прыроды. (...) Сьвятое Пісаньне — гэта Божая мова, замацаваная на пісьме пад натхненьнем Духа Сьвятога".

Чытай найперш Евангельле і ўвесь Новы Запавет, а калі іх спазнаеш, чытай тады ўсё Сьвятое Пісаньне. Бо менавіта яно — крыніца нашай веры. Бог пастаянна прамаўляе да людзей усіх эпохаў, да нас — таксама. Не бойся таго, што Сьвятое Пісаньне — тоўстая кніга, часам поўная таямніцаў. Ты не павінен "адным махам" прачытаць яго цалкам. Чытай яго паволі. Аднак асобныя Евангельлі ты павінен калісьці прачытаць усе падрад ад пачатку да канца, так, як чытаюцца іншыя кнігі. Бо яны зьяўляюцца біяграфіямі Езуса, і калі мы прагнем спазнаць Яго жыцьцё і Яго навуку, трэба іх чытаць так, каб схапіць пасьлядоўнасьць падзеяў і пасьлядоўнасьць павучаньняў. Толькі пасьля гэтага можаш чытаць Евангельлі фрагментамі, прыгадваць і асэнсоўваць падзеі з жыцьця Езуса і словы Яго навукі. Не спыняйся на адным толькі Евангельлі. Дух Сьвяты перадаў нам чатыры падобныя жыцьцярысы Езуса, якія напісаны для розных людскіх асяроддзяў, для людзей з розным выхаваньнем і рознаю культураю.

Чытаючы Дзеі Апостальскія і Лісты, памятай пра тое, што паказваюць яны дарогу жыцьця першых хрысьціянаў, якія паверылі ў Хрыста, у Яго

зьмёртвыхпаўстаньне, у Яго Боства. Яны з вераю прымалі збаўленьне, якое Езус прынёс людзям, і стараліся да гэтай веры дастасаваць сваё мысьленьне і паводзіны, мянялі сістэмы каштоўнасьцяў, мелі адвагу адкінуць усё ранейшае сваё жыцьцё, усю фармацыю, спосаб мысьленьня, уласьцівы навакольнаму сьвету. Спрабавалі пагадзіць з прынятаю вераю свае грамадскія і асабістыя абавязкі. Мы ж таксама пастаянна патрабуем таго самага. А таму пазнайма, як пашыралася вера ў Езуса, якія цяжкасьці перажывалі першыя хрысьціяне. Чытаючы ўважліва, мы адкрыем, што нашыя праблемы падобныя, і што часам у жыцьці трэба ўсё зьмяніць.




Калі зразумееш, што ўцелаўленьне, жыцьцё, сьмерць і зьмёртвыхпаўстаньне Езуса – найважнейшыя падзеі ў гісторыі чалавецтва, толькі тады пачынай чытаць Стары Запавет, які распавядае пра тое, як Бог падрыхтаваў да гэтых падзеяў адзін абраны народ, як таму народу аб'явіў сваё існаваньне і сваю волю, як Ён гэты народ "выхоўваў", каб стаў ён сьвятым. Усё гэта Бог рабіў дзеля таго, каб хоць нейкая частка гэтага народу магла зразумець дарогу збаўленьня, адкрытую Езусам Хрыстом, Богам-Чалавекам, і каб магла паверыць у Яго.

Гэтаю дарогаю Бог хацеў аблегчыць усім сустрэчу з Сынам Божым і прыняцьце дарогі збаўленьня, якую Ён адкрыў. (...)

Усе мы шукаем Езуса, сьвядома альбо падсьвядома. Спрабуйма сустрэць Яго ў Сьвятым Пісаньні, прыглядзецца, які Ён быў, спрабуйма ўчытацца ў Яго словы. Паверма, што, чытаючы Біблію, мы не толькі пазнаем цудоўную і мудрую кнігу, але пазнаем слова, якім Бог пастаянна корміць свой люд. (...) Калі мы сапраўды прагнем адшукаць Хрыста, калі верым, што Ён для нас — "дарога, праўда і жыцьцё" "ўчора, сёньня і на векі", то стараймася Яго спазнаць у слове, якое Бог нам перадаў у натхненьні Духа Сьвятога.

***а.Паўлін САТОЎСКІ***

*"Rycerz Niepokalanej" № 11, 1997г.*

***Пераклад К.ГУРСКАЙ***

## СЛОВА БОЖАЕ – НАШ ПАДМАЦУНАК

Сьвятое Пісаньне — гэта "чыстая і пастаянная крыніца духовага жыцьця" і "найвышэйшае правіла веры" (пар. Dei verbum, 21). Яно — быццам жывая вада, быццам падмацунак, якім сілкуецца веруючы чалавек. Таму я заклікаю ўсіх да як мага больш цесных і частых кантактаў са словам Божым, заклікаю адкрыцца Яго дзеяньню, Яго аздараўляльнай і творчай моцы. (...)

Уменьне чытаць Сьвятое Пісаньне мае вельмі важнае значэньне для кожнага верніка. Гэта першы крок на дарозе, наступнымі этапамі якой зьяўляюцца медытацыя і, у сваю чаргу, малітва ў канкрэтным значэньні гэтага слова. Менавіта малітва, натхнёная Сьвятым Пісаньнем, — гэта найважнейшая дарога разьвіцьця хрысьціянскай духовасьці. Хто здолее прысьвяціць ёй час і сілы, той потым зьбірае шчодры плён.

У год падрыхтоўкі да Вялікага Юбілею, у які мы былі запрошаны, каб "вярнуцца з адноўленым запалам да Бібліі", каб "спазнаць сапраўдную Тоеснасьць Хрыста" (Tertio millennio adveniente, 40), малемся, каб кожны хрысьціянін і кожны чалавек, які шукае праўды, стаў "пілігрымам Сьвятога Пісаньня" і вучыўся кожны дзень спажываць хлеб Слова жыцьця.

Даверайма гэту справу Найсьвяцейшай Паньне, якая, прымаючы Слова Божае, стала Маткаю Збавіцеля.

***Папа Ян Павел II***

*Кастэль Гандольфо, 20 ліпеня 1997г.*

***Пераклад К.Г.***



AveMaria




# НАВЭННА
## ДА ДЗІЦЯТКА ЕЗУС

Пане Езу, на працягу многіх тысяч гадоў чалавецтва чакала Твайго прыйсьця з неба. Чакалі патрыярхі і пракрокі, каралі і падданыя, бедныя і багатыя, вялікія і малыя, сьвятыя і грэшнікі.

Усе ўсклікалі: Прыйдзі, Пане Езу!

Уся зямля тужыла па Табе і прагнула Цябе,
як цаліна сасьмяглая без дажджу і расы;
як сонца, скутыя лёдам палі.

Душа, абнятая няволяй граху, прагла Цябе, як галодны хлеба, і ўсклікалі ўсе: Прыйдзі, Пане Езу!

І мы сёньня молім: Прыйдзі, Пане Езу!
У нашы касьцёлы — вялікія і малыя, бедныя і багатыя: Прыйдзі, Пане Езу!
У вялікія базылікі і прыгожыя катэдры: Прыйдзі, Пане Езу!
У бедныя касьцёлы і забытыя капліцы: Прыйдзі, Пане Езу!
У нашыя дамы, дзе сэрцы маладых і старых адкрытыя Табе: Прыйдзі, Пане Езу!
У хаты ўбогія, у сутарэньні і на гарышчы: Прыйдзі, Пане Езу!
Ва ўсе кватэры, дзе холадна і голадна: Прыйдзі, Пане Езу!
І туды, дзе на сьвята не будзе ялінкі: Прыйдзі, Пане Езу!
І ў тыя дамы, дзе ялінка перастала быць Божым дрэўкам: Прыйдзі, Пане Езу!
І туды, дзе зусім не ўспамінаюць Цябе: Прыйдзі, Пане Езу!
І ў тыя дамы, куды Табе ўваход забаронены: Прыйдзі, Пане Езу!
У нашыя сем'і, каб выцерці сьлёзы матак і пот з бацькоўскіх твараў: Прыйдзі, Пане Езу!

Да нашых дзяцей, такіх малых і найменшых: Прыйдзі, Пане Езу!
Да ўсіх дзяцей, каб прынесьці ім зорку радасную: Прыйдзі, Пане Езу!
Да нашых братоў і сясьцёр, каб благаслявіць іх працу: Прыйдзі, Пане Езу!
Да нашых сяброў і родных, каб сваёю любоўю асьвяціць іх любоў: Прыйдзі, Пане Езу!

У беларускія школы, дзе вучацца нашыя дзеці: Прыйдзі, Пане Езу!
Да бедных хворых з бальзамам суцехі: Прыйдзі, Пане Езу!
Да ўсіх цярпячых з кропляю сьвяточнай любові: Прыйдзі, Пане Езу!
Да вязьняў з аплаткам надзеі на заўтра: Прыйдзі, Пане Езу!
На зямлю нашу з мірам і благаслаўленьнем: Прыйдзі, Пане Езу!
І да ўсіх нас з ласкай любові і веры: Прыйдзі, Пане Езу!

О, прыйдзі, Пане Езу, прыйдзі і пасяліся ў нас — прынясі ласку і спакой, благаслаўленьне і здароўе, дапамогу ў працы і палёгку ў цярпеньні. Вытры сьлёзы, суцеш крыўды, споўні людскія жаданьні і сьвяточныя зычэньні, няхай усім ясным сьвятлом засьвеціць Вігілійная зорка і прынясе хвіліны шчасьця і спакою.

Амэн.



# ПАКЛІКАНЫЯ СЛУЖЫЦЬ БОГУ І МОЛАДЗІ

***Аднаўленьне рэлігійнага жыцьця на Беларусі спакваля набывае свае канкрэтныя формы, вяртаецца ў традыцыйныя русла. Яскравае сьведчаньне таму — зьяўленьне манаскіх законаў у нашым краі, дакладней, іх вяртаньне. Вяртаньне на тыя пляцоўкі, на якіх працавалі ў свой час іх папярэднікі і адкуль былі прымусова, гвалтоўна выгнаныя бязбожнаю бальшавіцкаю ўладаю, вяртаньне на тую запушчаную, занядбаную дзялянку, якая патрабуе гэтулькі іх намаганьняў і сілы, іх малітвы і ахвярнай душпастырскай працы. Сёньня мы з радасьцю можам канстатаваць яшчэ адзін такі факт вяртаньня на Беларусь закону салезіянаў. А падставаю для гэтае радасьці была перш за ўсё пакуль яшчэ незвычайная і даволі рэдкая для Беларусі падзея — панаўленьне клерыкамі-салезіянамі сваіх законных шлюбаў, якое адбылося 26 жніўня г.г. у касьцёле сьв.Міхала Арханёла ў Смаргоні. У сувязі з гэтым наш карэспандэнт Сьвятлана Вікулава сустрэлася з айцом Ігарам ЛАШУКОМ, салезіянінам, пробашчам мінскай парафіі сьв.Яна Хрысьціцеля, і папрасіла яго адказаць на некаторыя пытаньні.***

***— Ойча Ігар, напачатку нашай гутаркі раскажыце крыху пра сябе.***

— Я паходжу з парафіі Ішкалдзь Баранавіцкага раёна. Ішкалдскі касьцёл, як вядома, самы старажытны на Беларусі. Да касьцёла я пачаў хадзіць толькі ў шаснаццаць гадоў і да ўсяго, што датычыць пытаньняў веры, даходзіў сам. Пра цікавыя моманты з гісторыі майго пакліканьня можна напісаць цэлую кніжку, але я раскажу коратка. Маім пробашчам быў дамініканін, цяперашні генеральны вікары Пінскай дыяцэзіі ксёндз Казімір Велікаселец, які працуе ў Баранавічах. У свой час ён мне прапанаваў уступіць у закон. Гэта прапанова мяне вельмі зацікавіла. Тады, праўда, я яшчэ не ведаў, які закон мне лепш выбраць. Зусім выпадкова я сустрэўся з салезіянінам і праз пэўны час апынуўся ў салезіянаў. Пазьней я вучыўся ў Рызе ў Духоўнай семінарыі, а пасьля перабудовы выехаў разам з айцом Віктарам Барцэвічам у Польшчу і вучыўся ў Лондзе, каля Варты. Магістарскую працу па біблійнай тэалогіі напісаў пры Тэалагічнай Акадэміі ў Варшаве. Пасьля сьвятарскага пасьвячэньня прыехаў працаваць у Ліду. Праз год мае начальнікі накіравалі мяне на далейшую вучобу ў Рым. Там за два з паловаю гады я напісаў ліцэнзіяцкую працу па дагматычнай тэалогіі. Цяпер прыйшлося прыпыніць навуковую дзейнасьць, бо ёсьць больш пільныя, арганізацыйныя справы. Прыйдзе час, можа, гадоў праз пяцьшэсьць, калі дасьць Бог, я займуся ажыцьцяўленьнем сваіх навуковых планаў. Але пакуль што хацеў бы папрацаваць на Беларусі, каб, між іншым, набыць пэўны вопыт.

***— Хацелася б больш падрабязна даведацца пра закон салезіянаў сьвятога Яна Боскі і пра яго рэгулу.***

— Што датычыць нашага закону, то напачатку патлумачу саму назву. Салезіяне — гэта значыць, таварыства сьв.Францішка Сальскага; а сьвятога Яна Боскі таму, што заснаваў яго турынскі сьвятар Ян Боска ў канцы XIX стагоддзя. Наш закон быў створаны дзеля працы з моладдзю. Сьвяты Ян Боска бачыў на вуліцах Турына мноства маладых людзей, што бадзяліся без працы, кралі і абсалютна нічога не ведалі пра Пана Бога. Ён загарэўся жаданьнем дапамагчы ім. Ужо з дзяцінства Ян марыў працаваць для моладзі. Стаўшы сьвятаром, Ян Боска распачаў сваю дзейнасьць на вуліцах Турына. Напачатку працаваў адзін, пазьней яму дапамагалі некаторыя сьвятары, але шмат людзей яго не разумелі, і часам нават лічылі вар'ятам. І ўсё ж праз некалькі гадоў яму ўдалося з вялікімі цяжкасьцямі заснаваць закон. Галоўнаю мэтаю гэтага закону была праца з пакінутаю і занядбанаю моладдзю, якая не бачыла ніякага сэнсу жыцьця. З таго часу мы, салезіяне, імкнемся, у меру сваіх магчымасьцяў, ажыцьцяўляць гэтую мэту.

Важнае месца ў рэгуле нашага закону займае малітва, аднак, як я ўжо сказаў, не менш часу і ўвагі мы прысьвячаем самой працы з моладдзю. А ў асноўным наша рэгула не адрозьніваецца ад рэгулаў іншых законных супольнасьцяў, якія былі заснаваныя ў XIX стагоддзі. Можна сказаць, што яна была перанята ад ужо існуючых. Розьніца заключаецца перадусім у сьпецыфіцы законнага пакліканьня. Як ведаем, кожная супольнасьць у Каталіцкім Касьцёле стваралася для пэўнай паслугі. Гэта вельмі важна, бо такім чынам наш Касьцёл можа праводзіць евангелізацыю ў розных сьферах жыцьця. Адны займаюцца моладдзю, іншыя — выхаваньнем дзяцей, хтосьці — хворымі і г.д.

***— Мяркую, што нашых чытачоў зацікавіць канкрэтная дзейнасьць і жыцьцё вашага закону.***

— Дамы нашага закону знаходзяцца ў 123 краінах сьвету, у якіх жыве і працуе каля 20 тысяч братоў салезіянаў і прыкладна столькі ж сясьцёр салезіянак. У нашым законе існуюць таксама іншыя формы законнага жыцьця, у якім удзельнічаюць так званыя салезіянскія памочнікі — гэта сьвецкія вернікі, што дапамагаюць нам у правядзеньні справы евангелізацыі і ў працы з моладдзю. Часта гэтыя памочнікі рэкрутуюцца з нашых выхаванцаў, з тых, што закончылі салезіянскія школы. Іх мы называем таксама "дабравольцамі сьв.Яна Боскі". Ёсьць мужчынскае і жаночае аддзяленьне. Гэтая арганізацыя ў нечым нагадвае бесхабітовы закон, члены якога жывуць у кватэрах, не выяўляючы свайго стану, вядуць сьвецкі лад жыцьця. Мы маем нават сьпецыяльны закон для старых бабулек, якія называюцца "памочніцамі Матулі Маргарыты" (Матуля Маргарыта — гэта маці сьв.Яна Боскі). Старыя жанчыны-пенсіянеркі ўтвараюць сьвецкую супольнасьць і працуюць для місіі — шыюць, вышываюць альбо выконваюць іншую працу ў Касьцёле.

Галоўны дом, сэрца нашага закону, быў разьмешчаны ў Турыне. Там знаходзіцца наш першы араторыюм, базыліка Марыі Дапаможніцы верных, якую пабудаваў сьв.Ян Боска, а таксама рэліквіі нашага апекуна. Аднак нядаўна цэнтр супольнасьці быў перанесены ў Рым, на вуліцу Пізана.

Наш закон знаходзіцца на папскім праве. Яго сусьветная структура падзелена на сем частак, кожная з якіх мае свайго адказнага — рэгіянальнага саветніка. У нашым рэгіёне — гэта Бельх Людвік ван Гэкэ. Нядаўна ён візітаваў наш ордэн на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, і я меў магчымасьць разам з ім зьвізітаваць усе нашыя дамы, пабачыць нашу дзейнасьць у краінах былога Саюза.

На Беларусь салезіяне прыйшлі ў той час, калі заходняя яе частка належала Польшчы, у канцы 20-х гадоў гэтага стагоддзя. Яны заснавалі між іншым школу ў Дварцы, каля Наваельні. Працавалі таксама ў Новай Ельні і ў Новым Двары. Галоўным іх клопатам была аграмамічная школа ў Дварцы. Княгіня Магдалена Радзівіл падарыла салезіянам вялікі кавалак зямлі і маёнтак, там яны і зрабілі гэту школу для дзяцей і навучалі іх працы на зямлі, сталярству, апрацоўцы дрэва. Сёньня двор і ўсе будынкі разбураны. Перад вайною там быў пабудаваны першы маленькі касьцёлік сьв.Яна Боскі; ад яго таксама няма ніякага сьледу. Я мог наведаць толькі магілы пахаваных там салезіянаў. З таго часу захавалася невялічкая ікона нашага апекуна, якая спачатку перахоўвалася ў касьцёле ў Баранавічах, а цяпер упрыгожвае месца малітоўных спатканьняў нашай парафіі тут, у Серабранцы.



Візіт Сакратара Кангрэгацыі Навукі і Веры арцыбіскупа Тарчызіо Бэртонэ ў парафію сьв.Яна Хрысьціцеля ў Мінску. 15.08.97г.

Адрэстаўраваны ўжо і касьцёл у Дварцы. Апошні салезіянін у савецкай Беларусі памёр, здаецца, у 1968 годзе. Быў ім ксёндз Такарскі, які працаваў у Ракаве, недалёка ад Мінска. Цяпер ва ўзгаданых мясьцінах, як і раней, працуюць айцы салезіяне.

Ужо ў наш час дзейнасьць салезіянскага закону на Беларусі распачаў у 1981 годзе беларускі сьвятар, які тайна прыехаў сюды з Польшчы і спачатку быў звычайным працаўніком. У суседняй Польшчы ён працаваў на працягу некалькіх гадоў і за той час атрымаў тэалагічную адукацыю і сьвятарскае пасьвячэньне. Калі ўлады яго выкрылі, ён распачаў сваю дзейнасьць афіцыйна — у Жупранах, каля Ашмянаў. З гэтым сьвятаром я выпадкова пазнаёміўся пад час вучобы ў Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце...

Цяпер на Беларусі працуюць, акрамя мяне, тры сьвятары з нашага закону. Усе мы паходзім з гэтага краю. Каля пяцідзесяці студэнтаў-беларусаў вучыцца ў нашых семінарыях у іншых краінах — пераважна ў Польшчы, Італіі і Германіі. Пакуль што на нашай зямлі мы праводзім толькі шырокую душпастырскую дзейнасьць, таксама актыўна працуем з моладдзю. У Мінску найбольш спрыяльныя ўмовы, таму менавіта тут мы плануем пашыраць сваю пляцоўку.

***— Што ваш закон можа прапанаваць для адраджэньня рэлігійнага жыцьця на Беларусі?***

— Гэта вельмі моцна сказана — "рэлігійнага жыцьця". Можа лепш сказаць: "для адраджэньня жыцьця на Беларусі". Рэлігійнае будзе потым, спачатку трэба адрадзіць жыцьцё ўвогуле, каб чалавек мог называцца чалавекам, каб мог адчуць сваю годнасьць. Пазьней можна будзе прышчэпліваць хрысьціянскія каштоўнасьці. Адзін наш дыякан слушна зазначыў: "Каб катэхізаваць дзяцей, трэба мець жывых дзяцей". Другая праблема, якая нас вельмі турбуе, — гэта тое, што ў сучасным беларускім грамадстве моладзі не надаецца належная ўвага. Вялікая частка маладых людзей, асабліва дзяцей, жыве ў галечы. У Мінску, у вялікіх гарадах, метраполіях гэта найбольш кідаецца ў вочы. Мы можам прапанаваць нашым падлеткам найперш знайсьці саміх сябе, сваё месца ў гэтым жыцьці. У Мінску мы плануем у недалёкай будучыні адкрыць прытулак для беднай моладзі. Натуральна, гэтую дзейнасьць мы будзем праводзіць у супрацоўніцтве са сьвецкаю ўладаю, бо гэта вельмі важна для нашага харызмата. Мы знаходзімся па-за палітыкай і ні ў якім разе не зьбіраемся супрацьстаяць ніякай уладзе. Мы праводзім справу евангелізацыі, палітыка не наша сьфера дзейнасьці, і мы заўсёды гатовыя супрацоўнічаць з любою ўладаю дзеля дабра моладзі.

***— А што для Вас азначае евангелізаваць?***

— Праводзіць справу евангелізацыі — гэта значыць, жыць Евангельлем. Мы евангелізуем, калі вучым жыць. Уся наша дзейнасьць праводзіцца толькі з Евангельлем, не можа быць інакш, хоць часам мы працуем па-сьвецку, але заўсёды ў нашым выкладаньні прысутнічае Божы элемент, калі можна так сказаць.

***— А як выглядае на практыцы праца салезіянаў з моладдзю?***

— Адкажу на гэтае пытаньне, прывёўшы некалькі прыкладаў з працы ў краінах былога Савецкага Саюза. Першы прыклад — Гатчына, дзе салезіяне вядуць паліграфічную школу пры вучылішчы. Многія выдаткі на ўтрыманьне школы законьнікі пакрываюць самі, дзякуючы ўласнай працы, а таксама шукаючы спонсараў. Гэта школа на сёньняшні дзень зьяўляецца лепшаю ва ўсёй Расіі. Яна мае сучасную друкарскую тэхніку з Германіі і Італіі. Пра якасьць друку можа сьведчыць, напрыклад, той факт, што пецярбургскія прадпрыемствы ўжо не друкуюць свае рэкламы за мяжою, на Захадзе, але прывозяць туды, у Гатчыну. Цікава, што салезіяне ў гэта мястэчка былі запрошаныя сьвецкаю ўладаю і пачалі працаваць звычайнымі настаўнікамі. Я бачыў багаты плён іх дзейнасьці, у атэістычным асяроддзі яны шмат пасьпелі зрабіць для адраджэньня духоўнасьці. Людзі пачалі крыху інакш думаць, пачалі больш адкрывацца на сьвет. Гэта першы прыклад. Другі, не менш значны, — гэта дзіцячы прытулак у Адэсе, створаны нашым дыяканам Аляксандрам Чумаковым. Цяпер там жыве 56 дзяцей-сіротаў. Умовы там пакуль што вельмі складаныя. Шмат дапамагаюць сьвецкія людзі. Калі ўлады пабачылі, што гэты прытулак прыносіць большы плён, чым іншыя ўстановы, дзе сьвецкія часта працуюць без душы і ахвоты, то аддалі яму яшчэ дом-інтэрнат для круглых сіротаў, дзе знаходзіцца 350 дзяцей. Цяпер Аляксандр працуе яго дырэктарам.

Падобная праца вядзецца ў Якуціі і ў Сібіры. Там салезіяне адкрылі два маладзёжныя цэнтры, дзе моладзь можа праводзіць свой вольны час, а таксама набываць пэўныя веды, сьпецыяльнасьці. Наша задача — выхаваць добрых людзей і сапраўдных хрысьціянаў, пастарацца, каб яны ўмелі ўвайсьці ў гэты сьвет, авалодалі прафесіяй.

***— Скажыце, калі ласка, якія планы вашай супольнасьці ў Мінску?***

— У Мінску наш дом сёньня мае чатырох салезіянаў: двух сьвятароў і двух студэнтаў, якія знаходзяцца тут на практыцы. Усе мы — беларусы. Таксама тут распачынаюць сваю дзейнасьць сёстры салезіянкі. Пакуль што працуе адна сястра, але з часам іх будзе больш. У Мінску яшчэ цяжка казаць пра нейкія канкрэтныя дасягненьні, бо мы сюды прыехалі нядаўна. Затое на будучыню плануем шмат цікавага. Апрача таго, што зьбіраемся будаваць касьцёл і салезіянскі маладзёжны цэнтр, сьвецкая гарадская ўлада зрабіла нам пэўныя прапановы адносна працы з моладдзю, асабліва з найбольш занядбанымі і беднымі дзецьмі, якія не маюць дзе жыць, куды пайсьці і чым заняцца. Мы ўдзячныя прадстаўнікам сьвецкай улады за тое, што яны стараюцца вырашаць гэтыя праблемы, у тым ліку, з дапамогаю рэлігіі.

***— Ойча Ігар, якая Ваша самая запаветная мара як сьвятара і законьніка?***

— Галоўная мая мара — гэта зрабіць нешта добрае для маладых людзей тут, на Беларусі, і, напэўна, гэта мой сон, каб на Беларусі, асабліва ў Мінску, існавалі салезіянскія школы — накшталт тэхнічнага вучылішча. Прагну як мага больш дапамагчы бяздомным, пакінутым дзецям. Як салезіянін я не бачу іншага прызначэньня.

***— Можна сказаць, што ў салезіянскім харызмаце Вы знайшлі сваё пакліканьне?***

— Сапраўды, я гэта так адчуваю.

***— У жніўні ў Смаргоні адбылася вялікая ўрачыстасьць вашай супольнасьці...***


Сьвятая Імша ў Смаргоні.
26.08.1997г.

— Так, 26 жніўня ў Смаргоні нашыя клерыкі панаўлялі часовыя шлюбы. У нашым законе часовыя шлюбы складаюцца на 1-3 гады і потым панаўляюцца. У салезіянаў, каб падрыхтавацца на добрага манаха, трэба вучыцца амаль дзесяць гадоў. Пасьля прызначанага для часовых шлюбаў тэрміну чалавек робіць выбар: заставацца ў законе, ці не.

Пад час урачыстасьці ў Смаргоні шлюбы нашых студэнтаў прымаў, ад імя генерала нашага закону, кс.Генрык Куляшэвіч, смаргонскі пробашч. Я таксама меў магчымасьць прысутнічаць там — як інспектарыяльны саветнік супольнасьці на тэрыторыі Беларусі. Гэта вялікая адказнасьць.

***— У чым яна заключаецца?***

— Усе галоўныя арганізацыйныя, эканамічныя і іншыя пытаньні вырашае Рада правінцыі, у якую я ўваходжу. Яе складае 6 чалавек — гэта прадстаўнікі ўсіх нашых дамоў у краінах былога СССР. Правінцыя ахоплівае Літву, Украіну, Беларусь, Грузію і Расію. Магчыма, у недалёкай будучыні да яе далучацца Казахстан, Латвія і Эстонія, дзе плануецца стварэньне нашых дамоў. Вельмі часта нас запрашаюць у самыя розныя краіны, хоць не ўсюды нас чакае цёплы прыём. Для каго справа евангелізацыі і выхаваньня моладзі вельмі важная, тыя ахвотна запрашаюць шмат законаў і заўсёды нам рады. Дарэчы, нядаўна наш закон быў запрошаны для працы сярод моладзі ў адным чыста мусульманскім індыйскім штаце, дзе каталіцкая вера абсалютна забаронена, але нашыя браты былі запрошаны, дзякуючы сваёй сістэме працы з моладдзю. А такая атэістычная краіна, як Чэхія, запрасіла прадстаўнікоў нашай сям'і з мэтаю правядзеньня семінара для настаўнікаў, прысьвечанага прэферэнцыйнаму метаду выхаваньня моладзі. Метад гэты быў у свой час распрацаваны сьв.Янам Боскам.

***— Можна сказаць, што ваш харызмат зьяўляецца своеасаблівым ключом да евангелізацыі сучаснага грамадства на Беларусі і ва ўсім сьвеце...***

— Мы стараемся рабіць усё як найлепей на хвалу Божую і для дабра людзей. А тут, на Радзіме, мы працуем, не шкадуючы сілы, каб наша Бацькаўшчына паднялася з гэтага прадоньня бездухоўнасьці. Натуральна, што адзін сьвятар, без дапамогі і падтрымкі сьвецкіх шмат не зробіць. Таму ў практыцы салезіянаў заўсёды было, ёсьць і будзе шырокае супрацоўніцтва са сьвецкімі дзеля агульнага дабра нашае Беларусі.

***— Няхай дапамагае Вам у гэтым Бог. Вялікі дзякуй за гутарку.***



AveMaria



# САЛЕЗІЯНІН — ГЭТА СЛУГА МАРЫІ

**З казаньня пробашча касьцёла сьв.Міхала Арханёла ў Смаргоні Генрыка КУЛЯШЭВІЧА 26.08.1997г.**

У дзень Маці Божай Чанстахоўскай дзесяць клерыкаў, у тым ліку шасьцёра са Смаргоні, адзін з Ліды, адзін з Барунаў і двое з Жупранаў, аднаўляюць свае законныя шлюбы. Мы ўсе разам з імі перажываем гэту цудоўную ўрачыстасьць і просім Маці Божую, каб тое, што яны складаюць Пану Богу і пацьвярджаюць прысягаю, захавалі на ўсё сваё жыцьцё. Найсьвяцейшая Маці, добрая Пані Чанстахоўская і Дапаможніца вернікаў няхай вядзе іх праз усё жыцьцё. Салезіянін — гэта ўшанавальнік Марыі, салезіянін — гэта слуга Марыі, салезіянін — гэта нявольнік Марыі. Так бачыў наша пакліканьне ксёндз Ян Боска, калі арганізоўваў свой закон. Сам ён вельмі любіў Марыю, ёй аддаваў усе справы. Яна займае цэнтральнае месца пасьля Хрыста ў салезіянскім законе. Цяпер у Польшчы, на Яснай Гары, тысячы сьвятароў пад кіраўніцтвам прымаса Юзафа Глемпа, шматлікіх біскупаў з розных краінаў аддаюць пашану Чанстахоўскай Пані. Маці Божая Чанстахоўская — гэта тая самая Маці Божая, фігура якой стаіць у нашай сьвятыні, тая самая, што сьвеціць у Вострай Браме, ясьнее ў Будславе і ў Тракелях. Адна ёсьць Маці Божая, але праз гэтыя розныя постаці Яна набліжаецца да вернага люду, набліжаецца да сваіх дзяцей, каб яны мелі больш адвагі прыходзіць да Яе і ўпрошваць у Яе розныя ласкі.

Дарагія клерыкі, гэта цудоўна, што менавіта сёньня, каля падножжа Маці Божай, вы аднаўляеце свае шлюбы. Яна павінна вас весьці, Яна павінна аберагаць вас, Яна павінна быць для вас Маткаю, паратункам, дапамогаю ў цяжкіх, складаных хвілінах вашага жыцьця...

*Пасьля ўрачыстасьці панаўленьня шлюбаў мы сустрэліся з некаторымі яе ўдзельнікамі і вось што пачулі:*

**Андрэй КУЦЬКО са Смаргоні, клерык філасофскага аддзяленьня Папскай Тэалагічнай Акадэміі ў Кракаве:**

— Я шчасьлівы, што менавіта ў сваёй парафіі магу аднавіць законныя шлюбы. (Я меў год навіцыяту ў Маскве.) Бо ўвесь час хадзіў у гэты касьцёл, служыў тут міністрантам і адчуў у пэўны момант голас Божы, які паклікаў мяне... Я доўга над тым думаў, маліўся і пасьля размовы з ксяндзом дзеканам Генрыкам Куляшэвічам вырашыў аддаць сябе Пану Богу, каб насьледаваць Хрыста.

Сёньня я шчасьлівы і ўдзячны Богу за пакліканьне, удзячны Найсьвяцейшай Паньне Марыі, якая, я ўпэўнены, упрасіла для мяне ў Свайго Сына гэту ласку служэньня Яму. Закон салезіянаў выбраў таму, што перад вачыма меў прыклад свайго пробашча Г.Куляшэвіча, таксама салезіяніна, яго працу з моладдзю. Ксёндз Генрык мае незвычайны талент весьці за сабою маладых людзей, умее захапіць іх Божаю справаю.

Адкрытасьць, сардэчнасьць, шчырасьць пробашча заўсёды захаплялі, заўсёды хацелася быць падобным да яго, ісьці тым жа шляхам ахвярнага служэньня людзям, найперш — маладым.

Вельмі дапамагла мне і тая духоўная літаратура, якою шчодра дзяліўся з намі ксёндз Генрык, асабістыя размовы з ім. І таму сёньня я ўдзячны Пану Богу і нашаму пробашчу за тое, што дапамог мне знайсьці гэты шлях, па якім сапраўды варта ісьці праз усё жыцьцё...

**Алег КЛІМОВІЧ з Ліды, клерык філасофскага аддзяленьня Папскай Тэалагічнай Акадэміі ў Кракаве:**

— З салезіянамі я спаткаўся ў 1990 годзе ў Лідзе. Быў чатыры гады міністрантам у касьцёле. Потым, пасьля доўгага роздуму, зразумеў, што маё месца сярод салезіянаў.

А сёньняшняя ўрачыстасьць, можа, крыху й сумная, бо мы адыходзім ад гэтага сьвету, каб цалкам аддаць сябе Хрысту і сьледаваць за ім. Але гэтая ўрачыстасьць найперш нясе ў сабе радасьць, таму што мы можам быць бліжэй да Хрыста і бліжэй да тых, да каго будзем пасланыя. Найпершая мэта кожнага закону — асьвячэньне чалавека, які пайшоў у закон. А на другім месцы — пасланьніцтва. Закон салезіянаў менавіта й прыцягальны для мяне сваім пасланьніцтвам, бо салезіяне займаюцца выхаваньнем моладзі, прычым, моладзі цяжкай, якая часам не можа знайсьці свайго месца ў сьвеце. Філасофія, якую я вывучаю ў Акадэміі, спадзяюся, дапаможа мне глыбей зразумець жыцьцё і чалавека, дапаможа лепш падрыхтавацца да свае місіі...





Касьцёл сьв.Міхала Арханёла ў Смаргоні.

а.Генрык Куляшэвіч прымае шлюбы клерыкаў салезіянаў.

Пасьля заканчэньня ўрачыстасьці панаўленьня часовых шлюбаў.

Фота Зоф'і СОРДЫЛЬ



КАТАЛІЦКІЯ МІСІІ

# ВЯЛІКАЯ СІЛА СЬВЯТЫНІ



Пробашч смаргонскага касьцёла а.Г.Куляшэвіч



Міністранты касьцёла сьв.Міхала Арханёла ў Смаргоні.

Смаргонскі касьцёл Сьвятога Міхала. Калісьці ў дзяцінстве мы гулялі тут у хованкі, бо ў гэтым будынку знаходзіўся мэблевы магазін (тут працавала мама адной з нашых сяброўак). Бабулі нам часам казалі, што раней тут быў Божы храм і ў ім жыў Усемагутны Бог. Потым злыя людзі Бога пакрыўдзілі і выгналі. Мы многага тады не разумелі, але заўсёды ў нашых дзіцячых душах былі асаблівыя адносіны да гэтага будынку. І яшчэ мы чакалі, што можа нарэшце злыя людзі перастануць абражаць Бога, і Ён вернецца у Свой Дом, а мы Яго спаткаем. Але так і не дачакаліся. Вырасьлі, разьехаліся хто куды. А Божаму храму ў Смаргоні наканавана было стаяць зьняважанаму аж да 1990 года.

Потым касьцёл хутка аднавіўся, бо людзі гэтага вельмі прагнулі. Да таго ж Міласэрны Бог паслаў змучаным доўгім чаканьнем вернікам добрага, адданага ксяндза-законьніка з ордэна салезіянаў Генрыка Куляшэвіча. І за кароткі час парафія з 2 тысяч чалавек павялічылася амаль да пяці тысяч. Прычым, большая палова з іх — людзі сярэдняга веку, моладзь і дзеці. У мінулым годзе, напрыклад, заняткі па катэхізацыі прайшлі 650 чалавек, а да першай Камуніі приступіла аж 150 дзетак. Шчыра кажучы, я была прыемна зьдзіўлена і такою вялікаю колькасьцю міністрантаў, што ўдзельнічалі ў кожнай Сьвятой Імшы. А яшчэ тым, што парафія на сёньняшні дзень мае 12 клерыкаў.

Неспадзяваным сюрпрызам зьявіўся і цудоўны касьцёльны хор. Нібыта анельскі сьпеў чыстых дзіцячых галасоў кожным словам і кожнай нотай пранікаў глыбока ў душу і рабіў у ёй сваю ачышчальную справу.

Усё ў гэтым касьцёле, у гэтай парафіі гаварыла аб прысутнасьці і вялікай моцы Божага Духу. А таму нам вельмі лёгка было распаўсюджваць тут Сусьветны Жывы Ружанец — малітвы ў інтэнцыі трыумфу Беззаганнага Сэрца Маці Божай, аб якой Яна прасіла вернікаў яшчэ ў Фаціме, а потым у Меджугор'і. Адразу больш за 600 чалавек са шчырым жаданьнем дапамагаць Маці Божай сваімі малітвамі запісалася ў гэты ружанец. А прыклад парафіянам даў іх пробашч ксёндз Генрык, які першым запісаўся ў гэту малітоўную супольнасьць. Для вернікаў гэта было вельмі важным, бо ўсе яны шануюць і паважаюць свайго сьвятара. Сьвятара, які не толькі словамі, але і прыкладам асабістага жыцьця вучыць іх сапраўднаму насьледаваньню Хрыста.

Маленькі касьцёл у Смаргоні, а якая ж вялікая яго моц! Я глядзела на мясцовых дзетак і моладзь і шчыра радавалася. Яны ўжо ў маленстве спазналі Бога. І бягуць штодня да касьцёла не гуляць у хованкі пасярод халоднай мэблі, а на спатканьне з нашым Нябесным Айцом, які, спадзяёмся, ужо назаўсёды вярнуўся ў Сваю сьвятыню.

*Галіна КАЛЕВІЧ*





НАШЫ АПЕКУНЫ

У першы дзень лістапада каталікі адзначаюць Дзень Усіх Сьвятых. Але наша лучнасьць са сьвятымі не абмяжоўваецца толькі гэтым днём. У розных жыцьцёвых акалічнасьцях мы зьвяртаемся да тых, што некалі жылі на зямлі і сваімі добрымі справамі заслужылі алтар у небе. Напрыклад, мы захварэлі — і зьвяртаемся па дапамогу да сьвятога Роха; забалела горла — просім сьвятога Блажэя дапамагчы; дакучае галаўны боль — зьвяртаемся з просьбай аб дапамозе да сьвятога Андрэя Баболі. Альбо, скажам, згубілі нейкую рэч — і адразу ж просім дапамогі ў сьвятога Антонія, выпраўляемся ў дарогу — і абавязкова просім: "Сьвяты Крыштофе, маліся за нас". На працягу гісторыі Касьцёла вылучылася нават група сьвятых, якія асабліва дапамагаюць людзям у розных патрэбах. Яе складаюць чатырнаццаць асобаў, што жылі ў розныя часы, належалі да розных народаў. Вядома таксама, што гэтых чатырнаццаць сьвятых ушаноўвалі ўжо ў XIII стагоддзі. Мы пазнаёмім нашых чытачоў з жыцьцяпісамі гэтых сьвятых, з легендамі пра іх, а таксама з тым, у якіх патрэбах варта да іх зьвяртацца па дапамогу. Будзем друкаваць і малітвы да іх. Няхай жа гэтыя сьвятыя цешацца з нашай да іх пашаны і няхай яны падтрымліваюць нас на жыцьцёвым шляху!

# СЬВЯТАЯ БАРБАРА

Сьвятая Барбара належыць да народных сьвятых Касьцёла. Цікава, што напачатку пра яе ведалі няшмат, асабліва на хрысьціянскім захадзе, дзе нават не было вядома яе прозьвішча. І толькі праз 500 гадоў пасьля яе сьмерці адзін вучоны гісторык напісаў гісторыю яе жыцьця і сьмерці. І ў хуткім часе сьвятая Барбара была ўжо вельмі шанаванай ва ўсіх краях.

Нарадзілася яна паміж 280 і 290 гадамі ў Нікадэміі. Яе бацька Дыяскур быў паганінам. Як і многія знатныя людзі таго часу, ён люта ненавідзеў хрысьціянства, якое тады ўваходзіла ў свой росквіт. Для яго вельмі важна было, каб дачка, прыгожая і разумная, не пазнаёмілася з хрысьціянствам. Але чым больш стараўся бацька, тым больш Барбара прыходзіла да высновы, што паганскія вераваньні не маюць сэнсу і не могуць задаволіць душу, якая імкнецца да праўды. Бацька з вялікім сумам заўважыў гэткія пераканаласьці сваёй дачкі.

Аднаго разу ён вымушаны быў ад'ехаць з дому на працяглы час і тады загадаў збудаваць высокую вежу: дзеля таго, каб Барбара не магла сустракацца з хрысьціянамі і каб аберагчы сваю дачку ад усялякае небясьпекі. Калі ж бацька вярнуўся, то з прыкрасьцю зразумеў, што Барбара за гэты час яшчэ больш аддалілася ад паганства. Пачаў шукаць магчымасьці выдаць дачку замуж. Паколькі Барбара была багатаю ды прыгожаю, то вельмі хутка знайшлося шмат жаніхоў. Але дзяўчына ўсім адмаўляла, а бацьку нарэшце паведаміла, што не хоча шукаць шчасьця ў замужжы, бо прагне пражыць жыцьцё ў дзявоцтве. Бацьку засмуцілі гэткія думкі дачкі — ён зноў убачыў у іх уплыў хрысьціянства. Дыяскур даў Барбары яшчэ нейкі час на роздум і загадаў пабудаваць у вежы прыгожы пакой для адпачынку і купаньня. Але Барбара загадала замест гэтага пакою зрабіць месца для малітвы, заміж аднаго вакна — зрабіць тры, а на сьцяне таго пакою павесіць крыж. Цяпер ужо Дыяскур канчаткова зразумеў, што ён не зможа аддаліць сваю дачку ад хрысьціянства. Бацька забыў пра сваю вялікую любоў да прыгажуні-дачкі і сурова запатрабаваў тлумачэньняў. Барбара спакойна растлумачыла: тры вакны — гэта пастаянны напамін пра Сьвятую Тройцу, а крыж — знак збаўленьня, на якім Сын Божы Езус Хрыстус памёр за ўсіх людзей.

Пачуўшы такое, Дыяскур хацеў адразу забіць сваю дачку, але Барбара ўхілілася, бо не хацела, каб яе, асьлеплены злосьцю, бацька стаў забойцам. Але задобрыць яго не ўдалося: ён выдаў Барбару паганскаму суддзі як хрысьціянку. Дзяўчына была адразу ж пастаўленая перад трыбуналам. Усялякія спробы змусіць яе адысьці ад хрысьціянства не мелі выніку: не дапамаглі ні просьбы, ні абяцаньні, ні пагрозы. Тады суддзя страшна разлаваўся і загадаў аддаць Барбару на лютыя мучэньні. Яе білі бічамі, у раны ўціралі дробна пабітыя чарапкі і камяні, цела смалілі агнём. Пасьля зьверскіх катаваньняў дзяў-

чыну кінулі на ноч у вязьніцу.

Уначы да Барбары зьявіўся Хрыстус і аздаравіў яе. Калі на наступны дзень яна стала перад суддзёю, то зноў прамянілася прыгажосьцю і яснаю маладосьцю. Шаленства суддзі не ведала межаў. Барбару распранулі — і зноў пачаліся зьдзекі. Рэзалі яе цела, адсеклі грудзі, па галаве білі малатком і агнём палілі скуру. Пад крыкі натоўпу яе праводзілі на судовы пляц, каб там на вачах ва ўсіх пакараць сьмерцю. Бацька папрасіў дазволу ўласнаручна сьцяць дачцы галаву. Але не ўчыніў гэтага, бо ў небе загрымеў гром, і пярун забіў таго, хто ад нянавісьці да сваёй дачкі-хрысьціянкі канчаткова страціў розум. Дзяўчыну засеклі мячом. Так памерла сьвятая Барбара. Было гэта ў часе панаваньня кесара Максіміна Дазы, у 306 годзе.

Калі мы задумаемся над чыстым, сьвятым, напоўненым ахвярамі і пакутамі жыцьцём сьвятой Барбары, то не будзем тады зьдзіўляцца, што хрысьціянскі люд гэтак моцна яе ўшаноўвае. Яна зьяўляецца апякункай добрай сьмерці і падтрымлівае людзей ва ўсяляkіх хваробах, зьвязаных з гарачкай. Як апякунка тых, хто памірае, сьвятая Барбара знаходзіцца ў шэрагу сьвятых, якія дапамагаюць у патрэбе. Яе ўшаноўваюць жаўнеры, асабліва артылерысты. Яе клічуць на дапамогу пры небясьпецы пажару і буры. Сьвятая Барбара ахоўвае вернікаў ад раптоўнай сьмерці. Таму сваёй апякункай яе абралі мінёры, шахцёры, гарнякі, архітэктары, кавалі, вязьні, палітычныя падпольшчыкі, тайныя друкары, змагары за свабоду.

На абразах мы зазвычай бачым сьвятую Барбару на фоне вежы, з келіхам у руцэ і кніжкай. Вежа зьвязана з легендай пра яе жыцьцё, келіх азначае, што сама яна спрыяе, каб чалавек перад сьмерцю атрымаў ласку добрага прыняцьця сакрамэнтаў, кніжка ўказвае, што Барбара паходзіць са знатнага роду і праз навуку здабыла ласку хрысьціянства.

Дзень сьвятой Барбары адзначаецца ў каталіцкім календары 4 сьнежня.

На нашых землях ёсьць прыгожы звычай, зьвязаны з імем гэтай сьвятой. Калі 4 сьнежня, у дзень сьвятой Барбары, зрэзаць галінкі вішні і паставіць іх у ваду, то на Божае Нараджэньне наш сьвяточны стол будзе ўпрыгожаны цудоўным букетам вішнёвай квецені — гэта сьвятая Барбара дорыць маленькаму Езусу сваю прыгожую любоў.

*Паводле кнігі Вальтэра Гільдэрбранда "Сьвятыя, якія дапамагаюць у патрэбе".*

*Пераклад Ірэны ЗАДАРОЖНАЙ*

## М А Л І Т В А



*Усемагутны Божа,*
*Ты даў сьвятой пакутніцы*
*Барбары такую сілу,*
*што яна засталася вернаю*
*Табе ажно да сьмерці.*
*З даверам да яе заступніцтва*
*просім Цябе:*
*будзь з намі ў кожнай*
*патрэбе і небясьпецы*
*і ўмацуй нас у гадзіну сьмерці*
*целам і крывёю Твайго Сына,*
*нашага Пана Езуса Хрыста.*
*Амэн.*





П А Э З І Я

**Мар'ян ДУКСА**

### ПАРАСЧЫНЯЙЦЕ СЭРЦЫ

***Адбудзецца на сьвеце***
***вялікі цуд яшчэ раз.***
***Узрадуйцеся, дзеці:***
***вось-вось — і прыйдзе Езус.***

***Вось-вось — і лёгка ступіць***
***на ўсе сьцяжынкі краю.***
***Ён нас так моцна любіць,***
***таму й прыйсьці сьпяшае.***

***Яму цяпла не шкода,***
***саграць нам сэрцы хоча.***
***З вялікаю лагодай***
***зірне нам сёньня ў вочы.***

***Хоць ветрык сьпіць на вецьці,***
***бо гойсаў цэлы тыдзень,***
***пакуль не сьпіце, дзеці,***
***бо зараз Езус прыдзе.***

***Яго сустрэць нам трэба***
***гасьцінна і аддана.***
***Глядзіце, нават неба***
***ўсё зоркамі прыбрана.***

***Ля ўсіх дарог і ў лесе***
***сьняжок іскрыцца чыста.***
***Над намі ясны месяц***
***схіляецца ўрачыста.***

***У цуд найбольшы верце —***
***у сьветлы Цуд Мілосьці.***
***Парасчыняйце сэрцы***
***для Дарагога Госьця.***

***У велічы, у славе —***
***пра што і марым самі —***
***наш Езус неўзабаве***
***народзіцца між намі.***

### НАРАДЗІЎСЯ ЕЗУС

***О, людское племя,***
***радуйся яшчэ раз:***
***сёньня ў Бэтлееме***
***нарадзіўся Езус!***

***У цемры аднастайнай —***
***Ён, Нябесны Волат,***
***нарадзіўся ў стайні,***
***дзе пануе холад.***

***Хоць вяшчала Зорка***
***пра Яго бясьсьмерце,***
***Ён заплакаў горка***
***першы раз на сьвеце.***

***Весялей мо стане:***
***праз хвіліну недзе***
***прыбягуць у стайню***
***пастушкі-суседзі.***

***Мудрацы аддана***
***пройдуць шлях няблізкі —***
***прынясуць пашану***
***да Яго калыскі.***

***...Ты жыцьцё зыначыш,***
***сьвет саграэш стылы.***
***Ах, навошта плачаш,***
***Божа, Збаўца мілы?!***

***У паўночнай цішы,***
***хоць зімное ложа,***
***Цябе пакалышам,***
***наш любімы Божа.***

***Цябе ўбачым зблізку,***
***у касьцёле стаўшы...***
***А Твая калыска —***
***гэта сэрцы нашы.***

# Разам з Марыськай



*Сябры!*

*Вось і дачакаліся мы Божага Нараджэньня. Віншую ўсіх вас з гэтым вялікім радасным сьвятам. Жадаю, каб кожны хлопчык і кожная дзяўчынка мела сваё асабістае спатканьне з Езусам. Што мы дорым Яму ў гэтыя дні? Напэўна ж, нашыя добрыя ўчынкі, нашыя чыстыя сэрцы, напоўненыя дабром, сьвятлом, радасьцю. Няхай жа Божае Дзіця прыйдзе ў кожны дом, кожную сям'ю, і ў кожнае сэрца! І няхай Яму будзе добра ў гэтыя сьцюдзёныя дні на нашай беларускай зямлі!*

*Марыська*



***Малітвы дзяцей на сьвята Божага Нараджэньня***

О Пане Езу! З любові да нас Ты ляжыш у яслях як малое Дзіцятка. Дзякуем за тое, што Тваё нараджэньне прынесла сьвету радасьць. Дапамажы нам у гэты радасны час, каб мы таксама абдорвалі шчасьцем іншых, бо вельмі любім Цябе.

***

Дарагое Дзіцятка Езус!
Мы прыходзім, каб сустрэцца з Табой
у Бэтлеемскай стаенцы. Хочам любіць
Цябе так, як любіла Цябе
Марыя, Твая Маці.
Хочам Табе так служыць,
як служыў сьвяты Юзаф.
Хочам так сьпяваць, як сьпявалі
Табе анёлы, о Езу, наш Валадар.







## Молімся Ружанец

*Сябры!*
*Як вы памятаеце, у мінулым нумары "Ave Maria" мы разам з вамі пачалі маліцца ружанец. Прадоўжым гэтую малітву.*

### Частка першая — радасная
### Таямніца другая
# Наведваньне сьвятой Эльжбеты



Маці Божая! У сваім жыцьці мы сустракаем шмат розных людзей, але найбольш цешымся тады, калі нас наведвае сьвяты чалавек. Менавіта такая радасьць агарнула сьвятую Эльжбету, калі Ты, Найсьвяцейшая Панна Марыя, адчыніла дзьверы яе дома.

Маці Божая! Паспрыяй таму, каб я як найбольш у сваім жыцьці сустракаў сьвятых людзей. Дзеля таго, каб і мне вучыцца ў іх сьвятасьці.

***Ойча наш...***
***10 Вітай, Марыя...***
***Хвала Айцу...***

*О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі, захавай нас ад агню пякельнага, давядзі ўсе душы да неба і асабліва памажы тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасьць.*

***Пытаньні да другой таямніцы:***

1. Як звалі мужа сьвятой Эльжбеты?
2. У якой малітве мы паўтараем словы, якімі сьвятая Эльжбета сустрэла сьвятую Марыю? Напішыце іх.
3. Магніфікат — так называецца адзін з найпрыгажэйшых хрысьціянскіх гімнаў. Калі ён прагучаў упершыню?
4. Назавіце імя сына сьвятой Эльжбеты. У які дзень мы адзначаем яго нараджэньне?
5. Што сталася з мужам сьвятой Эльжбеты пасьля таго, як у яе нарадзіўся сын?

*Чакаю адказаў на пытаньні. Разумею, яны не вельмі лёгкія, але затое, шукаючы на іх адказы, вы даведаецеся шмат цікавага. Дык не лянуйцеся, адкрыйце "Дзіцячую біблію" альбо іншую карысную кнігу і чытайце. Нагадваю: адказы павінны быць акуратна напісаны, вельмі добра, калі там знойдзецца месца і нейкаму малюнку. Не забудзьцеся разборліва напісаць сваё імя і свой адрас.*

***Марыська***

## КОРАТКА ПРА ВЕЧНАЕ

Дасканаласьць заснавана на тым, каб выконваць Божую волю, быць тым, чым Бог хоча нас мець.

Тут, на зямлі, нас не можа нічога задаволіць. Зьведаць трохі спакою можна толькі ў гатоўнасьці выконваць волю Добрага Бога.

Лепш гаварыць да Бога, чым размаўляць пра Бога. Бо да размоў духоўных столькі прыплятаецца ўласнай любові...

Карысна зьведаць прыкрасьці. Гэта робіць чалавека больш уважлівым і міласэрным.

Калі д'яблу ўдалося аддаліць душу ад Сьвятой Камуніі — ён атрымаў усё.

Цярпеньне працягнула да мяне свае рукі, і я з любоўю кінулася ў іх абдымкі.

Дзеля таго, каб належаць толькі Яму, трэба быць малым, такім маленькім, як кропля расы.

Сьвятасьць трэба здабываць на вастрыі мяча!

Найбольшая перамога — гэта перамога над самім сабой.

Быць з Табою, быць у Табе, о Пане, — вось адзінае маё жаданьне.

Усё прамінаецца на гэтым сьмяротным сьвеце, нават малая Тэрэса... Але яна вернецца!

Я не паміраю — пачынаю жыць.

*Сьвятая Тэрэса ад Дзіцятка Езус*




**«Ave Maria»**
Лістапад-сьнежань № 11-12 (37-38) 1997
Заснавальнік –
Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце
Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана ў друкарні "НЭСІ",
220141 г.Мінск, вул.Жодзінская, 18.
Зак. 4. Наклад 10 000 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9,
тэл./факс: (0172) 26-90-92
Катэдральны касьцёл
Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны
Часопіс выдаецца
на ахвяраваньні вернікаў

### У НУМАРЫ








*Мінская старажытная катэдра Імя Найсьвяцейшай Марыі Панны перажыла ў XX ст. дзьве рэканструкцыі: "рэканструкцыю" 50-х і рэканструкцыю канца 90-х.*







*"Няхай толькі ўжо ніколі больш варожая рука не замахнецца на гэты адноўлены велічны Дом Божы..."*

*(з гамілії Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Сьвёнтка на рэкансэкрацыі катэдры).*